№ 29 (238) 16 ліпеня 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ШАРЭЦКІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ



**Пераехаўшы зь Вільні ў ЗША, кіраўнік парлямэнту падбірае сабе каманду з 30 чалавек для сталае працы.**

Старонка 2.

# Ганчарык – Лапацікам

*Сакрэтныя дакумэнты па справах аб палітычных забойствах — у руках кандыдата-сацыяліста*

**Уладзімер Ганчарык паведаміў, што мае копіі дакумэнтаў, якія даказваюць, што шэраг адказных чыноўнікаў з Пракуратуры, Міністэрства ўнутраных справаў ды іншых структураў давалі загады на фізычнае зьнішчэньне Юр'я Захаранкі ды Віктара Ганчара.**

Сярод дакумэнтаў — запыт генэрал-маёра міліцыі Мікалая Лапаціка на імя міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава, зроблены ў лістападзе 2000 г. Рукапісны тэкст пазначаны грыфам "Сакрэтна". У ім, паводле Уладзімера Ганчарыка, названыя прозьвішчы тых, хто загадаў расправіцца зь вядомымі палітыкамі, а таксама тых, хто выконваў загады. У.Ганчарык пакуль адмовіўся назваць імёны гэтых асобаў, а таксама крыніцы, адкуль ён атрымаў копіі дакумэнтаў. У.Ганчарык заявіў таксама, што мае копіі пратаколаў шэрагу допытаў, крымінальных экспэртызаў, а таксама выпіскі з кнігі выдачы пісталета для выкананьня сьмяротных прысудаў. Адметна, што тэрміны выдачы зброі, паводле гэтых запісаў, супадаюць з датамі, калі зьніклі Захаранка, Ганчар і Красоўскі. Пра З.Завадзкага ў дакумэнтах, копіі якіх мае сп.Ганчарык, гаворка не ідзе. Але ж многія факты супадаюць зь нядаўнімі выказваньнямі былых сьледчых Случака й Петрушкевіча, сьцьвярджае лідэр прафсаюзаў. У.Ганчарык зьвярнуўся з гэтай нагоды з адкрытым лістом да А.Лукашэнкі. У.Ганчарык патрабуе ад яго адхіленьня ад пасады асобаў, якія згадваюцца ў дакумэнтах, на час расьсьледаваньня. Калі праз пэўны тэрмін А.Лукашэнка адпаведным чынам не адрэагуе на гэтыя факты — а значыць, не дакажа сваёй зацікаўленасьці ў сумленным разборы справы — У.Ганчарык мае намер аддаць копіі ўсіх дакумэнтаў у СМІ. Такім чынам, пакуль — паўза.

Міністар унутраных справаў Уладзімер Навумаў аспрэчвае факт існаваньня запыту М.Лапаціка. Паводле ягоных словаў, генэрал Лапацік быў у складзе сьледча-апэратыўнай групы па гэтых справах, але пасьля сур'ёзна захварэў і доўгі час праляжаў. Цяпер генэрал яшчэ застаецца ў штаце Міністэрства, але, верагодна, працягне службу не ў апэратыўным аддзеле, а на выкладчыцкай працы. Між тым, Уладзімер Ганчарык сьцьвярджае, што на запыце М.Лапаціка стаіць рэзалюцыя міністра — "вярнуць дзеля выкананьня й праверкі".

Той факт, што сакрэтныя дакумэнты аб гучных справах аказаліся ў руках Ганчарыка, мяняе расстаноўку сілаў у дэмакратычным блёку. Ганчарык, які разглядаўся ў шэрагах апазыцыі выключна як кандыдат кампрамісу, перайшоў у атаку. Ва Ўкраіне справу Гангадзэ раскрыў сацыяліст Мароз, у Беларусі ключы да раскрыцьця гучных справаў аказаліся ў сацыяліста Ганчарыка.

**Б.Т.**



IREX-PROMEDIA

Уладзімер Ганчарык



тэма нумару

# Краіна нашых няспраўджаных надзеяў



**Беларусам Францыя й французы заўсёды ўяўляліся краінаю й людзьмі Надзеі. У пераломныя моманты гісторыі нашыя продкі зьвярталі свае позіркі да далёкіх берагоў Сэны й Люары.**

Ягайла, заключаючы Крэўскую унію, браўся шлюбам з каралеваю Польшчы Ядзьвігай, прадстаўніцай слыннай французкай дынастыі д'Анжу. У канцы XVI ст., калі згас род Ягайлавічаў, першым абраным манархам Рэчы Паспалітай стаўся Генрык Валеза, будучы кароль Францыі Генрык III. У XVII ст. нашая дзяржаўная эліта шукала ратунку ад анархіі й развалу, што апанавалі краіну ў часе "шведзкіх", "казацкіх" і "турэцкіх" войнаў, запрашаючы на варшаўска-віленскі, а то й асобна на віленскі сталец нашчадкаў славутых французскіх фаміліяў. Прапановы такога кшталту атрымлівалі й знакаміты ваяр Люі II дэ Бурбон, прынц дэ Кандэ (вядомы ў гісторыі як Кандэ Вялікі), і ягоны сын Анры-Жуль дэ Кандэ, і Франсуа-Люі дэ Бурбон, прынц дэ Канці, які быў нават законна абраны каралём Польшчы й вялікім князем Літвы ў траўні 1697 г. Частка літвінскай шляхты засталася вернай гэтаму гаспадару, нават калі ў 1698-м ён зьбег з Рэчы Паспалітай пад націскам войскаў саксонскага курфюрста Фрэдэрыка-Аўгуста. Апошні быў абвешчаны польска-літвінскім манархам Аўгустам II ды адразу ж уцягнуў дзяржаву ў зьнішчальную Паўночную вайну. Менавіта на дапамогу Францыі абапіраліся рамантыкі Барскай канфэдэрацыі, якія ў 1768—71 г. змагаліся з акупацыйнымі расейскімі войскамі, спрабуючы захаваць незалежнасьць Рэчы Паспалітай. І кароткачасовае аднаўленьне ў XIX ст. Вялікага Княства Літоўскага таксама адбылося пры самым непасрэдным удзеле Францыі — Часовы Ўрад ВКЛ стварыўся ў 1812 г. у Вільні, занятай Вялікай Арміяй Напалеона Банапарта, і дзеяў пад кантролем імпэратарскага камісара Л.Біньёна. І паўстанцы 1794, 1830—31, 1863—64 гг. слалі сваіх эмісараў па дапамогу менавіта ў Парыж — туды, дзе ў 1643 г. Іван Ужэвіч склаў першую ў гісторыі граматыку беларускай мовы, дзе ў 1840-м Аляксандар Рыпінскі выдаў першую ў гісторыі кніжку, на тытульнай старонцы якой чытач мог пабачыць загадкавую назву — "Беларусь", дзе ў 1841-м Адам Міцкевіч падчас лекцыі ў Калеж дэ Франс назваў мову беларусаў "самаю гарманічнай і з усіх славянскіх моваў найменш зьмененай". Першым міжнародным дэмаршам першае беларускае палітычнае партыі — Беларускай Сацыялістычнай Грамады — быў ейны ўдзел у нелегальным зьезьдзе партыяў Расеі, што адбыўся ў 1904 г. у Парыжы.

Аднак, загадка адвечнага беларускага спадзяваньня на вырашэньне кардынальных праблемаў свайго Краю з дапамогаю далёкай і такой спакусьлівай Францыі здаецца яшчэ больш таямнічаю, калі ўспомніць пра канец усіх вышэйпералічаных захадаў. Успомніць, як кожны раз наша крохкая Надзея ўшчэнт разьбівалася аб каменны мур *de la Politique réelle i du Pragmatisme national* — рэальнае палітыкі нацыянальнага прагматызму.

І сапраўды, вынікі спробаў прымусіць гальскага пеўня пракрычаць нам сьвітанак гаворачь самі за сябе. Генрык дэ Валюа прагасападарыў у Рэчы Паспалітай толькі чатыры месяцы (люты—чэрвень 1574), на працягу якіх не знайшоў часу наведаць Вялікае Княства, а потым патаемна зьбег у Парыж, каб заняць спадчынны трон па сьмерці брата Карла IX. Кандэ Вялікі ўвогуле адмовіўся прыехаць у Рэч Паспалітую, а ягоны сын не пагадзіўся на карону ВКЛ, асобную ад польскай, калі "каранежы" не захацелі абрацъ яго спадкаемцам караля й вялікага



князя Яна Казіміра. Прынц дэ Канці ня здолеў дабрацца да месца каранацыі, а сваёй нерашучасьцю за некалькі месяцаў распужаў усіх прыхільнікаў і бясслаўна пакінуў Край. Барскім канфэдэратам не хапіла мізэрнай французкай дапамогі, каб адужаць шматтысячнае расейскае войска, і іхная параза справакавала першы падзел Рэчы Паспалітай. Часовы Ўрад ВКЛ мусіў пакінуць дзяржаву разам з адступаючымі часткамі Вялікай Арміі ў сьнежні 1812 г., а ўся ягоная дзейнасьць зьвялася да арганізацыі харчовага й фуражнага забесьпячэньня французскага войска ды рэкруцкага набору ў тое самае войска — чамусьці, паводле расейскага заканадаўства. Інсургентам Касьцюшкі, Валовіча ці Каліноўскага Францыя нічым рэальна не дапамагла.

**Ігар Лялькоў**

**Працяг тэмы на старонцы 6.**

## ГАРАЧЫ ЛІПЕНЬ


ДЗЯНІС РАМАНЮК

### З усёй краіны

### 300 афрабеларусаў

**У Беларусі жыве блізу трох сотняў дзяцей з чорным колерам скуры.** 85% гэтых дзяцей знаходзяцца ў дзіцячых дамах і школахінтэрнатах для дзяцей-сіротаў. Астатнія жывуць у сем'ях. Звычайна, гэта няпоўныя сем'і з маці, якая раней мела грамадзянскі шлюб з афрыканскім студэнтам, што навучаўся ў адной зь беларускіх ВНУ. Пасьля вяртаньня на радзіму бацька звычайна не цікавіцца лёсам дзіцяці і не дапамагае былой "сям'і".

### Зулусы абрабавалі

**У беларускага атлета, леташняга пераможцы папулярнага ў Паўднёвай Афрыцы супэрмарафону "Таварышы", Уладзімера Котава** злодзеі адабралі красоўкі. Спартовец адпачываў зь сям'ёй у паўднёваафрыканскай правінцыі Квазулу-Наталь. Падчас адной з прабежак Уладзімера спынілі трое маладых людзей. Адзін зь іх дастаў нож, а другі сыпнуў у вочы пяску. Да гэтых трох далучыліся яшчэ пяцёра. Злачынцы паваліліі Уладзімера на зямлю, зьнялі зь яго саколку й красоўкі, але не ўзялі гадзіньніка і залатога ланцужка. Спартовец адрэагаваў гэтак: "Хоць гэта было і непрыемна, для мяне Паўднёвая Афрыка застаецца лепшым месцам на зямлі".

Цяпер Котаў афармляе дакумэнты, каб атрымаць паўднёваафрыканскае грамадзянства.

### Дзецям нельга грыбы есьці

**Умоўна ядомымі грыбамі, у прыватнасьці, смаржкамі, ужо атруціліся сёлета 42 чалавекі.** Два зь іх памерлі. Адна з ахвяраў — паўтарагадовая дзяўчынка. На думку дактароў, дзецям да 3-х год грыбы наагул есьці нельга — нават баравікі могуць выклікаць алергію ў арганізьме дзіцяці. Атруціцца ядомымі грыбамі можна, калі на працягу 2-х гадзінаў пасьля збору іх не перабраць, бо за гэты час паміж рознымі відамі грыбоў пачынаюцца небясьпечныя для здароўя хімічныя рэакцыі.

**Паводле БелаПАН**

### Крычаўшчына вымірае

**Імклівa зьмяншаецца карэннае насельніцтва зямлі Вашчылы.** За 5 месяцаў гэтага году ў Крычаўскім раёне памерла 283 чалавекі, а нарадзіўся толькі 141. Замест памерлых Крычаўскі раён "абжываюць" людзі, якія мігруюць з Расеі.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

### Пацярпелыя за Беларусь

У ноч з 12 на 13 ліпеня ў Менску былі затрыманыя сябры незарэгістраванага руху "Зубр" Каця Шабан, Юры Антонаў, Дзіма і Пеця (прозьвішчы пакуль невядомыя). Актывісты "Маладой Грамады" Зьміцер Фядорчанка, Алесь Барадуля і Сяргей Падзолка былі затрыманыя ў Менску за пікетаваньне будынку гарвыканкаму.

### Удакладненьне

**У пазамінулым нумары мы пазначылі памылковы адрас Інтэрнэт-сайту Незалежнага інстытуту сацыяльных, эканамічных і палітычных дасьледаваньняў. Слушны адрас: www.iiseps.by.**

### Хроніка кампаніі

### Загрузьлі

**"Пяцёрка" ня вызначылася з адзіным кандыдатам.** Дакладней, перанесьлі гэтую справу на пасьля рэгістрацыі. Мо й вызначыліся, ды не прызнаюцца. Цэнтралявіца хоча падтрымаць мудрага Ў.Ганчарыка. Цэнтраправіца перакананая ў перавазе маладога С.Домаша. Абяцаюць вызначыцца з адзіным кандыдатам пасьля рэгістрацыі. Ды во бяда: ужо і цяпер пазнавата, а тады і зусім будзе позна для раскруткі.

### Лепей уколы даваць

**Дэпутат Жодзінскага гарсавету Аляксандар Ваўчанін склаў зь сябе паўнамоцтвы кіраўніка мясцовай ініцыятыўнай групы па вылучэньні А.Лукашэнкі кандыдатам на прэзыдэнта** ў знак пратэсту супраць грубых парушэньняў і прыпісак у часе збору подпісаў. Цяпер ён знайшоў працу паводле сваёй спэцыяльнасьці — фэльчарам на станцыі "Хуткай дапамогі".

**Б. Т.**

### Навіны гаспадарскія

### Рэгістрацыя цырульняў

**Кошт нявыкарыстанага прыватызацыйнага чэка "Маёмасьць" будзе падвышаны да 3 тыс. рублёў.** Гэта канчаткова паставіць крыж на прыватызацыі дзяржпрадпрыемстваў, падчас якой на продаж выстаўляліся загадзя нерэнтабэльныя суб'екты гаспадараньня.

Пасьля таго як міністэрства гандлю ЗША ўвяло адмысловае падвышанае мыта на імпарт беларускай сталі, рынак гэтай краіны пакінуў Беларускі мэталюргічны завод. Беларусы пакараныя за дэмпінг (сьвядомае заніжэньне цаны) у папярэднія гады. У выніку БМЗ страціць больш за 10 млн. даляраў.

Урад працягнуў абавязковую сэртыфікацыю паслуг цырульняў да 1 ліпеня 2002 г. Адтэрміноўка на год выратавала ад банкруцтва дробныя прыватныя цырульні, якія мусілі толькі за афармленьне дакумэнтаў заплаціць каля 300 тыс. рублёў.

З гэтага тыдня пачнецца жніво на Берасьцейшчыне. Аграрнікі кажуць, што сёлета надвор'е спрыяе і можна будзе сабраць 7 млн. тон супраць леташніх 4,8 млн. Але калі праца ў полі зацягнецца больш як на 15 дзён, страты ўраджаю складуць блізу 15%.

**Сяржук Іваноўскі**

# ШАРЭЦКІ Ў КЛІЎЛЕНДЗЕ

**Старшыня Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня Сямён Шарэцкі перабраўся зь Вільні ў Злучаныя Штаты Амэрыкі. Гэта адбылося два тыдні таму. Ягоныя сыны й жонка атрымалі "зялёную картку" яшчэ раней, але інфармацыя пра гэта не разгалошвалася. Разьмясьціўся фармальны кіраўнік нашае заканадаўчае ўлады ў Кліўлендзе — даўнім цэнтры беларускае дыяспары ў Амэрыцы.**

Цяпер Сямён Шарэцкі падбірае супрацоўнікаў для беларускага прадстаўніцтва ў ЗША, якое, паводле нашых зьвестак, будзе складацца з трох дзясяткаў чалавек. Сярод тых, хто атрымаў прапанову працаваць там, — некаторыя былыя супрацоўнікі "НН". Мяркуецца, што штаб Шарэцкага будзе каардынаваць кантакты зь Беларусяй.

Цікава, што ў віленскай кватэры Таварыства Беларускай Культуры ў Літве, якую займаў Шарэцкі, цяпер атабарыўся іншы аўтар "НН", полацкі пісьменьнік Алесь Аркуш, што распачаў працу на віленскай радыёстанцыі "Балтыйскія Хвалі".

**Б.Т.**

### Дзе варта быць

### Басовішча

**20—21 ліпеня пад Гарадком на Беласточчыне пройдзе фэст беларускае рок-музыкі "Басовішча".** У першы дзень а 17-й пачнецца конкурс маладых гуртоў, у другі а 18-й – канцэрт пераможцаў і гасьцей. Будуць "Крама", "Палац", Ulis, Pidżama Porno ды іншыя беларускія й польскія музыкі, а таксама дзьве каманды з Брытаніі.

Дабірацца цягнікам да Горадні альбо Берасьця/Тэрэспалю, адтуль электрычкай да Беластоку (яшчэ туды зь Менску ходзяць наўпростыя аўтобусы, але дужа нязручныя, цераз Горадню), а там ужо паўгадзіны да Гарадка. Калі машынаю, дык найлепш праз Высокае. Не забудзьцеся набыць ваўчар. І бярыце з сабой намёт, давядзецца два дні ў лесе жыць.

### Аўтамабіль у доме РСДРП

**У Доме-музэі 1-га зьезду РСДРП у Менску адбываецца выстава «Аўтамабіль на далоні»,** якая складаецца з больш чым 600 мініятурных мадэляў-копіяў транспартных сродкаў. Тут можна ўбачыць экіпажы, карэты, лімузыны славутасьцяў, каралёў і прэзыдэнтаў, гоначныя і спартовыя машыны. Асобнай групай вылучаная тэхніка адмысловага прызначэньня: мэдыцынская, пажарныя, будаўнічыя аўтамабілі. Цікавая й калекцыя гарадзкога транспарту. Выстава працягнецца да 31 жніўня.

### Віцюк

**23-га ў КЗ "Менск" – спэктакль эпатажнага расейскага рэжысэра, украінца паводле паходжаньня, Рамана Віцюка.** "Суляміта" – мадэрновы твор паводле Оскара Ўайльда, паводле ўласна "Суляміты" ды лістоў пісьменьніка. Харэаграфія — Алы Духавай, кіраўніцы балету "Тодэс". "Цятральны крытык" газэты "Навінкі" "абяшчае, што сьпектакль будзе срэдні, но публіка акажэцца прызнацельна".

Квіткі па маскоўскіх цэнах — да 25 тысячаў.

### На вадзе

**Бліжэйшыя дні абяцаюць быць сьпякотнымі, таму ў вольны час няма чаго гібець у горадзе – выбірайцеся на прыроду, на якое возера ці рэчку.** Толькі мала такіх вадаёмаў, дзе санітарная абстаноўка нармальная. Каля Менску рэкамэндуюцца Цнянка (даезд тралейбусам) ды Птыч (электрычкай на Баранавічы). На Менскім жа моры (электрычкай на Маладэчна) вада трохі бэнзынам патыхае. Толькі не пазьніцеся: апошнія электрычкі ў бок Менску — а палове на адзінаццатую.

**Дзяніс Носаў**


IREX-PROMEDIA

### Музыка

# Хацелася б вастранькага

**Можна толькі парадавацца з тае прычыны, што амэрыканская амбасада нарэшце перарвала свой малазразумелы мараторый на культурніцкія акцыі.**

Дзякуючы Рондзе Ларсан сучаснае амэрыканскае музычнае мастацтва нарэшце ўжывую прагучала зь беларускай сцэны. Спявачка насамрэч — прадстаўніца *world music*, бо ў сваіх творах актыўна ўжывае матывы народаў сьвету, найчасьцей — кельцкія, ірляндзкія і ўсходнія (армянскія). Грае Ронда на розных відах флейтаў.

Ня ўсе творы, якія яна выканала ў зале Белдзяржфілярмоніі, з мастацкага боку былі аднолькава вартаснымі. Напрыклад, тэма «Рака» сапраўды заслугоўвае самай высокай адзнакі, але часам гучала музыка й ня дужа выразная. Увогуле, *world music*, якая, па сутнасьці, зьяўляецца музыкай рэляксу, музыкай фону для розных побытавых заняткаў, ня дужа арганічная для вялікіх канцэртных заляў. Найбольшае ўражаньне яна робіць у запісе, таму гэткіх выканаўцаў, як Ронда, у ЗША — як у нас лыжнікаў. Амэрыканская амбасада можа забясьпечыць Філярмонію такой музыкай на год наперад.

Амэрыканскі саўндпрад'юсэр Том Бэйтс зрабіў у залі такі гук, які мне асабіста тут чуць яшчэ не даводзілася. Ролі выканаўцаў ансамблю былі акцэнтаваныя праз гук. Яскрава адчуваўся падзел на лідэра і музыкаў фону. Напрыклад, так невыразна, цьмяна агучыць фартэпіяна можна толькі наўмысна.

Магчыма, менавіта з-за таго, што такіх ансамбляў на менскай сцэне яшчэ не было, гэтая музыка не зрабіла на мяне асабіста вялікага ўражаньня. Бо ад амэрыканскай музыкі хацелася ўсё ж нечага больш вастранькага і віртуознага.

Аднак заля вітала амэрыканскіх выканаўцаў са звышэнтузіязмам. Цяжка паверыць, але пасярод лета білеты былі выкупленыя наперад, і арганізатары канцэрта прыдумалі такое, чаго ў Менску яшчэ ня бачылі: на ганку Філярмоніі паставілі вялікі экран і трансьлявалі на яго ўвесь канцэрт. Супэр!

У зале ж сем шэрагаў былі выдзеленыя запрошаным прадстаўнікам дыпкорпусу, вядомым людзям — палітыкам, грамадзкім дзеячам, журналістам. На канцэрце прысутнічалі Натальля Машэрава, Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб. Перад пачаткам канцэрту да прысутных з кароткім словам зьвярнуўся Майкл Козак, і гэта дае надзею, што мастацкая інтэрвэнцыя ЗША атрымае працяг.

І на заканчэньне, як заўвага: 4 ліпеня ў Вільні даваў канцэрт сам Хэрбі Хэнкак... Як кажуць, адчуйце розьніцу.

**Зьміцер Падбярэскі**

# Барада Шчукіна

Сяргей Паўлоўскі

Сымбаль гвалту над асобай у сёньняшняй Беларусі — прымусова зголеная барада Валер'я Шчукіна. 60-гадоваму дзеду семярых унукаў у Жодзінскай каталажцы скруцілі рукі і тупым галяком зрэзалі акладзістую сівую бараду. Гвалтам парушылі вобраз вядомага на ўсю краіну дысыдэнта.

Ва ўспамінах пра адну з сваіх адседак палітвязень Шчукін пісаў:



**Васіль Лявонаў пра Жодзінскую турму: "Я прайшоў чатыры турмы, пазнаёміўся з чатырма цытадэлямі. Спробы псыхалягічнага ціску былі толькі ў Жодзіне. Што датычыць аховы, я не магу сказаць, што нехта, апроч жодзінскіх, спрабаваў парушыць закон і нешта зрабіць мне наўмысна".**

**Аляксей Шыдлоўскі пра Жодзінскую турму: "Такім самым рыкам было зробленае афіцыйнае паведамленьне: "Вы прыбылі ў Жодзінскі цэнтрал "Чорны Бусел". Тут вы ня людзі, і мы зробім усё, каб вы адчулі гэта. Без каманды — не паварочваць нават галавы, рухацца толькі бегам з закладзенымі за сьпіну рукамі, трымаць адлегласьць два мэтры адзін ад аднаго. Калі да вас зьвяртаюцца — адказваць цалкам прозьвішча, імя, імя па бацьку, дату нараджэньня, бацькоў, жонак, артыкулы, паводле якіх утрымліваецеся пад вартай. Папярэджваю — за запінку будзем біць, за размовы паміж сабою — будзем біць. Калі хто задумае спрачацца, жывым да камэры ня дойдзе! Пачалі!..**

**Калі дайшла чарга да Вадзіма Лабковіча, начальнік зьмены паведаміў:**

**— Увага! Сёньня на этапе бээнэфаўцы, аматары ірваць сьцягі. Пастаўцеся да іх з усёй увагай, калі ласка!**

**Далей я пачуў, як Вадзіма колькі разоў ударылі (чуваць было, як ён упаў)...**

**Мяне выклікалі сярод апошніх. Перш чым назваць свае дадзеныя, я паведаміў, што я на галадоўцы. Міліцыянт счырванеў і двойчы ўдарыў мяне ў грудзі. Я ўтрымаўся на нагах і паспрабаваў быў без запінкі назваць свае дадзеныя, але на артыкулах Крымінальнага кодэксу мяне замкнула. З усіх бакоў пасыпаліся ўдары кулакамі, так што я ўпаў...**

**— Дык што, сьцягі любіш? Ану, хлопцы, намалюйце яму на сьпіне сьцяг!**

**...Пасьля гэтай "вандроўкі" на сьпіне сапраўды ўтварыўся бел-чырвона-белы сьцяг, які назаўтра зьмяніў чырвоную паласу на сіне-чорную".**

**Аляксей Шыдлоўскі тлумачыць гэта тым, што беларускі Асьвенцім знаходзіцца ў заштатным гарадку, і ўсё, што там адбываецца, не трапляе да ведама грамадзкасьці. Так было. Але сёньня паведамленьні ступь трапляюць у СМІ. Ёсьць выпадкі, калі затрыманыя і скіраваныя туды да высьвятленьня людзі выходзілі інвалідамі.**

"У беларускай "Бастыліі" — спэцпрыёмніку для дробных хуліганаў — вельмі зьдзівіліся, убачыўшы ў сябе перад самым Новым годам арыштаванага "Дзеда Мароза": у гэтыя перадсьвяточныя дні мая традыцыйная барада ўспрымалася адназначна як дзедмарозаўская".

Можна скласьці цэлую анталёгію гэткага "чорнага гумару" часоў Лукашэнкі, пачынаючы ад прастрэленага лёзьненскага "мэрсэдэсу" і адбітку міліцэйскага бота на сьпіне будучага прэзыдэнта, ад зьбітых паветраных шароў і пратаколу, паводле якога глуханямыя лаюцца матам, і сканчаючы зголенай барадой Шчукіна. Гэта ўжо стыль, дакладней — жанр. Сьмешны анэкдот, увасоблены ў жыцьцё на беларускай сцэне сем гадоў таму, становіцца трагедыяй. Публіка ў масе сваёй не пратэстуе, яна нават ужо і прывыкла.

З адным даўнім маім знаёмцам, які пачытвае апазыцыйную прэсу, загаварылі мы пра шчукінскую бараду. Ён кажа: "Хіба ты ня ведаеш скандаліста Шчукіна? Пэўне ж, сам падстроіў, каб яго пагалілі".

Сапраўды, хто ж гэта верыць у анэкдоты, нават увасобленыя ў жыцьцё?

"Але што трэба, каб ты паверыў?" — пытаюся ў знаёмца.

Ён пачынае разважаць пра тое, што недавер ягоны выкліканы прэсай, якая не аднойчы перабірала меру з апісаньнем рэпрэсіяў. Вось каб пра той выпадак гвалту ён пачуў не ад журналістаў, а так, дзе-небудзь у барысаўскай электрычцы, ад якога мянта...

Выходзіць, міліцыянты і простыя людзі кажуць праўду, а газэты адлюстроўваюць увасобленыя ў жыцьцё анэкдоты...

Валеры Шчукін — даўні герой гэтых анэкдотаў. То кашулю-вышыванку ў Вярхоўным Савеце насіў, то кіцель капітанскі; то ён камуніст, то праваабаронца, на ўсіх дэманстрацыях — у першым шэрагу, яго першага амонаўцы крупяць, яго судзяць бясконца і караюць то штрафам, то суткамі. І паўсюль — ягоная барада. Словам — чалавек, ну зусім *не падобны да мяне*. Асоба ў адным шэрагу з анэкдатычнымі Чапаевам, Штырліцам ці Вовачкам. Каму прыйдзе ў галаву ўспрымаць іх сур'ёзна і зь імі салідарызавацца?

Сытуацыя, між іншым, вельмі падобная да той, што была ў Нямеччыне ў трыццатыя гады, калі пастар Німэлер напісаў свае знакамітыя словы: "Калі яны прыйшлі па сацыял-дэмакратаў, я маўчаў, бо ня быў сацыял-дэмакратам. Калі яны прыйшлі па камуністаў, я маўчаў, бо ня быў камуністам. Калі яны прыйшлі па жыдоў, я маўчаў, бо ня быў жыдам. Калі яны прыйшлі па мяне, дык не засталося нікога, хто мог бы мяне абараніць".

Думаючы пра выпадак у Жодзінскай каталажцы, я разумею, што стыль жыцьця і палітычныя пераканьні Валер'я Шчукіна тут ні пры чым. Падабаецца табе ён ці не падабаецца, неістотна. Бо той выпадак — не ягонае дзеяньне, не ягоны выбар і ўчынак. Гэта дзеяньне супраць яго. Прычым, на маю думку, гэта самае гвалтоўнае дзеяньне, якое толькі можна прыдумаць. Прымусовая зьмена тваёй самаідэнтыфікацыі. Ператварэньне чалавека ў прадмет — гэта тое, што ў самых страшных у сьвеце кітайскіх турмах называюць ператварэньнем чалавека ў жабу.

Сьведчаньні пра Жодзінскую каталажку — самую жахлівую ў Беларусі — даходзілі і раней. Але менавіта шчукінская барада стала наймацнейшым доказам таго, што у нас для палітвязьняў ёсьць свая кітайская турма.

Горкая кпіна гісторыі — сілаю зголеная барада былога камуніста Валер'я Шчукіна.



IREX-PROMEDIA

**За Хрушчова будаўніцтва і рэканструкцыя турмаў у Беларусі былі спыненыя. Імкліва набліжаўся камунізм і гэтаксама імкліва зьмяншалася злачыннасьць. Менавіта тады, дарэчы, менскія архітэктары падрыхтавалі праект рэстаўрацыі Пішчалаўскага замку. Ён мусіў стаць тым, чым быў напачатку — гістарычным замкам, як толькі ягоныя сьцены пакіне апошні зэк. Але камунізм не настаў. Пішчалаўскі замак ператварыўся ў забітую зьняволенымі, у тым ліку і палітычнымі, Валадарку, а перадавы арыштанцкі дом у Жодзіне стаў узорам для будаўніцтва цэлае сеткі гэткіх самых у РБ.**



Плакат Уладзіміра Цесьлера. 1989 г.

Фідэль Кастра абяцаў, што паголіцца пасьля перамогі сацыялізму. У 1996 г. хадзіў жарт: "Што зробіць БНФ з Лукашэнкам, калі скіне? - Паголіць чуб і вусы, пасадзіць у прэзыдэнцкі гелікоптэр і вывезе ў Смаленскую вобласьць. Хай там ходзіць, даказвае, што ён Лукашэнка". Жартавалі-жартавалі, а бараду пагалілі Шчукіну...

**Камэнтар праваабаронцы**

## Фармальна – усё законна

Шчукін асуджаны на тры месяцы арышту не па адміністрацыйным артыкуле, а па крымінальным — хуліганства. Арышт на тры месяцы — гэта не адміністрацыйнае, а крымінальнае пакараньне. Новае крымінальнае заканадаўства Беларусі патрабуе, каб такі арышт зьняволеныя адбывалі ў арыштанцкіх дамах, але такіх установаў у Беларусі не існуе (не пабудавалі яшчэ), таму ўтрыманьне такіх асуджаных у сьледчых ізалятарах зьяўляецца агульнай практыкай. Парушэньнем зьяўляецца таксама ўтрыманьне асуджаных па правілах ізалятару, але гэта таксама зьяўляецца агульнай практыкай.

Перавод Шчукіна ў Жодзіна пагаршае ўмовы ягонага ўтрыманьня, але рэч у тым, што Валадарка ў Менску перапоўненая. У Беларусі СІЗА маюць адзіны статус і ня маюць градацыі па рэжымах. Таму перавод выкананы фармальна законна.

**Юрыст праваабарончага цэнтру "Вясна" Андрэй Казакевіч, т.(017) 231-08-44**

# Пра вусы і бараду

Сяргей Харэўскі

Неяк мой цесьць прыехаў на Пастаўшчыну з барадой. Тамака ўсе пачалі яго дакараць: "Пагаліся!" Дзед Пякарскі не стрымаўся: "Ты што, маскаль? Гэна ж адны толькі маскалі ў нас бароды носяць!" На Пастаўшчыне ёсьць стараверы, якія вылучаюцца сваёй моваю ды барадамі. Іх здавён называюць маскалямі. "Во вусы — гэта красата!" — працягваў стары Пякарскі, пагладжваючы свае — рэдкаватыя, закручаныя, як у Сальвадора Далі.

Жаданьне ўпарта стаяць на сваім — рэдкая для беларусаў рыса. Але такое пытаньне, як даўжыня валасоў ці барада, — выключэньне з правіла.

Зрэшты, наяўнасьць ці адсутнасьць расьліннасьці на твары была істотным пытаньнем праз усю чалавечую гісторыю. На мяжы XV—XVI ст. эўрапейцы пачынаюць галіцца амаль татальна. А вось расейскі Сьвяты Сынод у 1551 г. заявіў, што "без барады нельга ўвайсьці ў Валадарства нябеснае". Нават Жыгімонт Гербэрштэйн, пасол Сьвятой Рымскай імпэрыі, мусіў адгадаваць бараду, каб трапіць у Масковію на пачатку XVI ст. У часы Рэнэсансу мода на бароды панавала і сярод нашай арыстакратыі. Не галіліся абодва Мікалаі Радзівілы, Чорны й Руды, якіх і звалі гэтак за колер іхных вялізных барадаў. Барадачамі былі Кастусь Астроскі, Іван Хадкевіч, Філон Кміта-Чарнабыльскі, Леў Сапега. Бароды мелі усе запар Жыгімонты, уладары Вялікага Княства. Хоць наяўнасьць-адсутнасьць барады была справай цалкам прыватнай і не зьяўлялася падставаю для гвалту й забойства, як у Расеі за Пятром Першым. "Галаву сячы, бараду не чапай!" — малілі аб літасьці баяры свайго цара.

На мяжы XVI—XVII ст. у беларускім шляхецкім асяродку бароды амаль цалкам зьнікаюць. Застаюцца пышныя вусы, закручаныя на самы розны манер. На старых шляхецкіх партрэтах няма, за рэдкімі выняткамі, чыста паголеных пэрсонаў.

Мода на бароды вярнулася ў Эўропу ў сярэдзіне XIX ст. Валасатасьць твару сталася знакам нонканфармізму. Джузэпэ Гарыбальдзі, Лаёш Кошут, Эжэн Пат'ё. Згадайце й нашых: Сымона Канарскага, Валер'я Ўрублеўскага ці Жыгімонта Серакоўскага. Маладзенькая яшчэ, негустая барада была і ў Кастуся Каліноўскага.

...Стаміўшыся ад суседзкіх і сваяцкіх пляўкоў, мой цесьць згаліў бараду. Сказаў, што яна яго старыць. А можа й праўда, не хацеў быць падобным да маскаля. А стары Пякарскі сёлета згаліў вусы. Бяз вусаў я яго ледзь пазнаў. Ён зрабіўся зусім стары, стомлены і... звычайны. Казаў, што падпаліў выпадкова. Хоць, падазраю, і ён пачаў няёмчыцца ад свайго шляхецкага выгляду... Часы пайшлі, як Купала пісаў, не такоўскія...

# Справы азіяцкія

## *Цзян Цзэмінь завітае ў Менск падтрымаць Лукашэнку*

**Сталіцу Алімпійскіх гульняў 2008 г. выбіралі ў Маскве на пасяджэньні Міжнароднага алімпійскага камітэту. Перамог Пэкін, які атрымаў 56 галасоў з 111. Беларускі НАК напярэдадні пасяджэньня ўхваліў кандыдатуру Пэкіна.**



Кажуць, што звычайна падчас такіх працэдураў галасы папросту купляюць. Мяркуйце самі: цягам апошніх 3 гадоў кітайскія фірмы практычна за свой кошт збудавалі ў Афрыцы 28 футбольных стадыёнаў.

КНР змагалася за права арганізаваць Алімпійскія гульні ад 1993 г. Тады перад прыездам інспэкцыі Міжнароднага алімпійскага камітэту ўлады павывозілі зь места ўсіх "непажаданых" асобаў і, каб зьліквідаваць смог, пасярод зімы выключылі цэнтральнае ацяпленьне. Відовішча сініх кітайцаў, што грозна ляскалі зубамі, інспэктарам пэўна не спадабалася. Гэтым разам былі зробленыя высновы, і калі ў лютым Пэкін наведала камісія МАК, улады толькі на тыдзень зачынілі самыя экалягічна брудныя фабрыкі ды пафарбавалі газоны. Інспэкцыя прайшла ўдала, і змаганьне за Алімпіяду перайшло ў сфэру хабараў і абяцанак дый урэшце завяршылася кітайскай перамогай.

Кітайскі кіраўнік Цзян Цзэмінь завітае ў Беларусь па дарозе з Расеі ў Малдову. У Кішынэў ён паляціць, каб падтрымаць прэзыдэнта Вароніна — няшмат у сьвеце краінаў, дзе камуністы пры ўладзе. У Расеі Цзэмінь будзе падпісваць дамову аб стратэгічным супрацоўніцтве. А да нас заедзе, каб прывітаць Лукашэнку, даўняга сябра кітайцаў усяго сьвету. Цікава будзе, калі Кітай разам з Кувэйтам, адкуль нядаўна вярнуўся Мясьнiковіч, выдзеляць Беларусі крэдыты, неабходныя для аднаўленьня разбуранай выбарамі гаспадаркі.

Візыт Цзян Цзэміня — доказ таго, што Беларусь мае свой уплыў у сьвеце (кітайскай, а не амэрыканскай ягонай частцы). Прэзыдэнты дзьвюх супэрдзяржаваў – Расеі і Кітаю — знаходзяць час, каб завітаць у Менск і маральна падтрымаць Лукашэнку перад выбарамі — ці гэта ня лепшае пацьверджаньне таго, што "жыве Беларусь"? (І як жыве Беларусь...)

**Язапат Змысла**



### Інгушэцыя

## Злачынства расейскіх салдацюгаў

**Прэзыдэнт Інгушэціі Руслан Аўшаў абвінаваціў расейскія фэдэральныя войскі ў барбарстве.** Нагодай сталіся дзеяньні жаўнераў у Джэйраскім раёне, дзе вайскоўцы разбурылі адзін з найстаражытных інгускіх могільнікаў і зрабілі прыбіральню ў сярэднявечным храме XII ст. Хаба-Эрды, які для горцаў, прыкладам, як наша Каложа. Вайскоўцы на свае патрэбы яшчэ й разабралі частку сьценаў бажніцы. Інгушы ўзбудзілі крымінальную справу па факце апаганьваньня сьвятыні.

### Азэрбайджан

## Reforma pravapisu

**З 1 жніўня ўсе азэрбайджанскія СМІ, дзяржаўныя ўстановы, рэкламныя й мастацкія выданьні пяройдуць на лацінку.** Прэзыдэнт Гейдар Аліеў падпісаў распараджэньне аб стварэньні дзяржаўнай камісіі па рэформе мовы, старшынём якой будзе ён сам. Сваімі намесьнікамі ён прызначыў галаву прэзыдэнцкае адміністрацыі, прэзыдэнта АН, старшыню Саюзу пісьменьнікаў, а таксама дзесяць экспэртаў ад ураду, парлямэнту і ВНУ.

### Украіна

## Гэй, газу!

**"Газпрам" у парушэньне ранейшых дамоўленасьцяў скараціў пастаўкі газу ва Ўкраіну,** бо тая нібыта не даплочвала за ўжо атрыманае. У адказ "Нафтагаз Украіны" абвесьціў "Газпраму" і ягонай крэатуры "Ітэры", што ўкраінскі бок сам будзе штодня забіраць патрэбныя 10 млн. кубамэтраў газу з аб'ёму ітэраўскага транзыту ў Эўропу. І сталі адпампоўваць, не чакаючы адказу.

### Малаві

## Вайна з кракадзіламі

**Улады афрыканскай дзяржавы Малаві шукаюць паляўнічых-добраахвотнікаў для адстрэлу кракадзілаў.** Такі крок выкліканы тым, што рэптыліі ўсё часьцей і часьцей нападаюць на людзей у ваколіцах возера Ньяса. Кожны добраахвотнік атрымае афіцыйны дазвол забіць дваццаць кракадзілаў у пэўных раёнах краіны. Тутэйшыя паліцыянты ў часе сэзону дажджоў амаль штодня атрымліваюць паведамленьні пра напады кракадзілаў на людзей, нават на зямлі.



### Агляд сярэднеэўрапейскіх падзеяў

# Візы, межы і карупцыя

**Урад Нямеччыны пераглядае іміграцыйную палітыку.** У праекце новага закону прапануецца штогод прымаць 50 тысячаў новых імігрантаў, перадусім маладых і кваліфікаваных, пераважна з тэхнічнай адукацыяй, а таксама 10 тыс. мэнэджэраў і студэнтаў. Імігранты, якія вывучаць мову й будуць добра сябе паводзіць, атрымаюць права застацца ў Нямеччыне назаўжды, а за 6 гадоў атрымаць грамадзянства. Трэба сказаць, што ня так тыя адмысловцы і прагнуць ехаць у Нямеччыну. Нядаўна Бэрлін запрасіў 20 тысячаў кампутарных спэцыялістаў, але прыехала толькі 8 тыс.

**Віцэ-міністар нацыянальнай абароны Польшчы Шарамецьеў пазбыўся пасады,** а ягоны намесьнік Фармус арыштаваны па абвінавачаньні ў карупцыі. Ён, нібыта, вымагаў хабары дамаўляючыся аб закупках для польскага войска. Фармус меў ажно чатыры пашпарты — польскі, канадзкі, нямецкі і турэцкі (нават быў прапісаны ў Турэччыне). Скандал усчаўся пасьля артыкулу ў *Rzeczpospolitej*, хоць і раней неаднакроць казалі, што асыстэнт віцэ-міністра — хабарнік. Маючы зарплату 1,5 тыс. даляраў у месяц, Фармус купляў дарагія вілы й шыкоўныя лімузыны.

**Сэрбам нарэшце паказалі праўду аб разьні, учыненай 6 гадоў таму ў Срэбраніцы.** У ліпені 1995 г. бялградзкія СМІ паведамілі, што сілы басьнійскіх сэрбаў вызвалілі Срэбраніцу ад мусульманскіх экстрэмістаў. Дзяржаўнае ТБ паказала колькі кадраў, на якіх генэрал Радка Младзіч кажа пра гарантыі бясьпекі для местачкоўцаў.



**Прэзыдэнт Стаянаў, як і ўся палітычная эліта Баўгарыі, раўніва ставяцца да новага прэм'ер-міністра краіны, былога цара Сімяона II.**

У хуткім часе незалежная газэта *"Наша Борба"* і незалежнае радыё Б-92 паведамілі пра разьню, але ўрадавыя СМІ на працягу ўсіх наступных гадоў абвяргалі паведамленьні пра гэтае злачынства. Таму, калі дзяржаўнае ТБ паказала перадачу пра Срэбраніцу, грамадзтва было ў шоку. Выявілася, што тыя, каго шэсьць гадоў называлі патрыётамі, у 95-м забілі 7500 чалавек.

**Сяргей Рак**



# Грошы

## *падарожныя нататкі*

Адам Глёбус

Грошы даюць свабоду. Хай ілюзію. Зрэшты, што такое свабода без ілюзіяў, мараў, памкненьняў? Ну не статыстыка ж яна. І хто сказаў, што грошы любяць падлік, улік і статыстыку? Мана. Каб грошы любілі статыстыку, усе бухгальтары былі б мільянэрамі. А так зірні: бухгальтары працуюць на зарплату. Грошы ня любяць бухгальтараў. Бухгальтары любяць грошы. А грошы любяць талент, асабліва пасьля сьмерці. Ёсьць талент, і ёсьць грошы. Каб талент ня скіс, яго трэба праветрываць. Найлепшы скразьняк — у падарожжах, ён цудоўна выветрывае, выдзімае плесьню. І падчас падарожжаў з грашыма адбываюцца розныя дзіўныя рэчы. Як сутнасьць грошы застаюцца грашыма, але формы набываюць самыя дзіўныя.

Наймярзотнейшыя грошы ў Эгіпце. За тысячы гадоў, што ходзяць яны ўздоўж Нілу, наліпла на іх чорт ведае што. Сучасны эгіпецкі фунт сатканы з паперы, пяску і рознай заразы. Пасьля карыстаньня такой паперкаю абавязкова трэба рукі мыць, каб не схапіць якой чумы ці воспы. Добра, што ў арабаў арабскія лічбы на грошах, гэта паскарае карыстаньне зачумленымі банкнотамі.

А ў галяндцаў наадварот, усе паперкі як новыя, нібыта толькі з друкарні. І малюнкі на іх карцінныя — устаўляй у раму, вешай на сьцяну. Партрэт Сьпінозы настолькі шэдэўральны, што я ажно перачытаў "Багаслоўска-палітычны трактат". І ня толькі перачытаў, а й перавыдаў. Натхніўся партрэтам на купюрцы.

А партрэт Экзюпэры на 50 франках мне зусім не спадабаўся. І не спадабаўся зь дзьвюх прычынаў. Французы, пэўна, у прадчуваньні-чаканьні эўра апошні раз намалявалі франкі халтурна. А яшчэ я бачыў у гадзіньнікавай краме мурына, які дастаў скрутак франкаў з майткоў. Дастаў, разгарнуў, расправіў мятыя твары Экзюпэры. Набыў гадзіньнік і пайшоў. Экзюпэры загінуў-зьнік недзе ў Афрыцы. Лёс.

Вядома, Экзюпэры — гэта маленькі прынц, казка, плянэтарнасьць, касмагонія, палёт... Лепшы ён за ангельскую каралеву. Англасраксы любяць сваю каралеву. Малююць на фунтах аж занадта старанна. Але ўсе палітэмігранты вельмі паважаюць фунты з каралеваю, бо ў Парыжы дапамога ім складае 40 франкаў на дзень, а ў Лёндане — 40 фунтаў. Розьніца! Адчуваеш? Толькі Лёндан даражэйшы за Парыж роўна на столькі, на колькі 40 фунтаў даражэйшыя за 40 франкаў.



Цікава, колькі плацяць палітуцекачу ў ЗША? Сыходзячы зь лёгікі — 40 даляраў? Каб ня краў у крамах, 40 даляраў на дзень — нармальныя грошы. І нармальныя ва ўсім сьвеце. Бакс, ён і ў Беларусі бакс. Чамусьці ўсе ў Беларусі, ад таго, хто сам сябе называе прэзыдэнтам, да таго, хто называе сябе апазыцыйным палітыкам, мысьляць у далярах. Не ў беларускіх рублях, як мусібыць, а ў далярах. І яшчэ праклінаюць ЗША, першы — прылюдна, другі — у вузкім коле аднадумцаў. Даляр адказвае адпаведна: ня любіць іх абодвух за бяздарнасьць. Ён, як і ўсе грошыкі, любіць талент, свабоду й Радзіму.

Калі які зеленатвары бакс заляціць у Беларусь, дык пакруціцца, павернецца й назад уцякае. Аказваецца, ня толькі птушкі любяць гнёзды свае, ня толькі рыбы любяць віры свае, але й грошы любяць банкі свае. У чужых сумуюць, настальгуюць. Ім трэба дапамагаць, як чалавеку ў выгнаньні, як чалавеку ў дарозе. У якую б краіну я ні прыехаў, мне заўсёды дапамагалі, і грошы давалі, між іншым.



Больш за ўсё мне дапамагалі ў Масковіі. Ну, любяць там беларусаў, так любяць, так шануюць, што мо-

# Аляксандар Мсьціслававіч Талстой: “Граф вярнуўся!..”

**Мсье Талстой прыехаў у Беларусь як першы аташэ па культуры новаадкрытага францускага пасольства ў 1992 г. Цяпер ён працуе судэканам франкабеларускага факультэту Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту ў Менску. Ён адзін з тых французаў, па якіх беларусы ацэньваюць Францыю як краіну і як партнэрку Беларусі. Эвалюцыя ягоных поглядаў яскрава адлюстроўвае эвалюцыю францускіх поглядаў на Беларусь увогуле. Нягледзячы на непасьлядоўнасьць унутранай палітыкі, Беларусь за 10 гадоў заняла сваё месца ў калектыўным уяўленьні эўрапейцаў. У гэтым — жалезная лёгіка гісторыі. І зарука пераадоленьня тае няўвагі да Беларусі, неразуменьня Беларусі, якія абумоўлівалі своеасаблівую беларусафобію эўрапейцаў у 90-х. Пра гэта — гутарка з графам Талстым.**



**“НН”: Вы жывяце ў Беларусі 9 гадоў. Ці зьмянілася вашае бачаньне краіны за гэты час?**

**А.Т.:** Папраўдзе, у 1992 г. у мяне не было ніякага бачаньня. І гэтая адсутнасьць бачаньня і была сярэднім бачаньнем сярэдняга эўрапейца. Я час ад часу наяжджаў у Расею да сваякоў, бываў у Цэнтральнай Азіі і на Каўказе, бо цікавіўся каўкаскімі мовамі, турысцкай экзотыкай. А для наведваньня Беларусі ня меў ні турыстычных, ні навуковых прычынаў. Адпаведна, не было й ніякага ўяўленьня пра беларускую культуру.

Для мяне беларуская культура — гэта культура, якая ставіць шмат пытаньняў, на якія цяжка знайсьці адказы. Мо таму, што ёсьць малавядомыя сфэры, палітычныя ці грамадзкія табу. Напрыклад, мне цікава было даведацца, што ў Беларусі раней большасьць насельніцтва гарадоў складалі жыды — вельмі дынамічная і важная для грамадзтва група. Але я дагэтуль не магу знайсьці адказу на пытаньне, ці паўплывала жыдоўская культура рэальна на беларускую. Падазраю, што кантактаў паміж жыдоўскай культурай як культурай гарадзкой і беларускай культурай як культурай пераважна вясковай было няшмат. Гэта пытаньне тэрытарыяльнай стратэгіі, калі хочаце... Застаецца толькі шкадаваць, што жыдоў у Беларусі ня стала, бо разнастайнасьць — моўная, этнічная і кожная іншая — зьяўляецца багацьцем. Калі б жыды ў Беларусі заставаліся такімі ж шматлікімі і такімі ж вольнымі ў сваёй дзейнасьці, вясковае насельніцтва Беларусі таксама разьвівалася б хутчэй, і краіна была б багацейшаю.

**“НН”: Вы кажаце, што 10 гадоў таму Беларусь амаль не прысутнічала ва ўяве эўрапейцаў. Цяпер яна зьявілася ў гэтай уяве? Што гэтаму паспрыяла?**

**А.Т.:** Найперш палітыка. Нейкія падзеі, здарэньні... Аднак усё гэта вельмі павярхоўна, фрагмэнтарна, без агульнага бачаньня. Каб займецць яго, трэба быць сталым і блізкім назіральнікам.

**“НН”: Як Беларусь можа стаць аб’ектам блізкага назіраньня, напрыклад, для французаў?**

**А.Т.:** Сёньня галоўны мост між Беларусяй і Францыяй — студэнты нашага факультэту. Яны насычаюцца францускай культурай і зьяўляюцца спэцыялістамі па культуры беларускай. Яны выходзяць з унівэрсытэту здольнымі несьці інфармацыю пра Беларусь на розных мовах — ангельскай, францускай... І, такім чынам, робяць веды пра Беларусь даступнымі для эўрапейскіх краінаў.

**“НН”: Колькі студэнтаў выпускае Ваш факультэт штогод?**

**А.Т.:** У сярэднім — 15—20.

**“НН”: Якая частка зь іх працягвае навучаньне або знаходзіць працу ў Францыі?**

**А.Т.:** Лепш казаць не пра Францыю, а пра Заходнюю Эўропу... Працу там мала хто знаходзіць. Але ўсе яны, дзе б ні працавалі, застаюцца тым ці іншым чынам зьвязаныя з Францыяй. Недзе траціна нашых студэнтаў сканчаюць навучаньне ў Францыі.

**“НН”: Вы казалі пра шматэтнічнасьць Беларусі. Як наша краіна можа карыстацць з гэтай шматэтнічнасьці, каб паляпшаць свой вобраз і ўмацоўваць прэстыж у сьвеце?**

**А.Т.:** Ну, Ваша шматэтнічнасьць памірае, бо жыдоў ужо няма, напрыклад... Гэта, на жаль, агульная тэндэнцыя ў гісторыі нацыяў. Нацыі робяцца ўсё больш аднанацыянальнымі — гэта фатальнасьць гісторыі, і народы да гэтага часам нават імкнуцца. Таму я ня думаю, што Беларусь можа неяк скарыстацць з гэтага, пагатоў што гісторыя Беларусі ў гэтай галіне расьпісаная слаба і інфармацыі няшмат і пра жыдоў, і пра татараў, і караімаў. Апошніх ужо й не засталося нават... А між тым, адна спадарыня зь беларускіх Багдановічаў, караімка, эміграваўшы пасьля рэвалюцыі ў Францыю, сталася пакравіцелькаю сусьветнае арганізацыі “Братоў-мусульманаў”.

**“НН”: Як Вы бачыце будучыню беларускае культуры й сьвядомасьці ў іх суіснаваньні зь іншымі культурамі?**

**А.Т.:** Я банальна скажу, што гэта залежыць ад волі кіроўных групаў насельніцтва, якія можна расплывіста назваць “элітамі”, — ад людзей, што маюць пэўнае выхаваньне, адукацыю, ня толькі ўладу. Ідэя разьвіцьця беларускае культуры цікавіла мяне, бо я задумваўся, ці можа ў краіне, у якой у 1995—96 г. статыстыка налічвала толькі 35% беларускамоўных, разьвівацца культура гэткага тыпу. Цяпер я проста канстатую, што тутэйшыя дзяржаўныя мэдыі, БТ і прэса досыць шырока ўжываюць беларускую мову. Для мяне, як назіральніка збоку, беларуская мова ня робіць уражаньня адсунутай на пэрыфэрыю грамадзтва. Ёсьць тэлеперадачы, выпускі навінаў па-беларуску. Ня ведаю, ці гэтага дастаткова. Беларуская мова ўжываецца, прынамсі, на ўзроўні пачатку 90-х. Ня думаю, што беларушчыны паменшала з тае пары. Але я ня ведаю, ці можа ўплыў беларускае мовы ўзрасьці. У пэрыяды інтэнсіўнае русіфікацыі ў Беларусь прыяжджала болей расейцаў-мігрантаў, чым нараджалася беларусаў. Таму існуе значная частка грамадзтва, за якой не стаіць ніякай беларускай традыцыі, якая працягвае захоўваць свае расейскія сямейныя ўстоі й якая не абцяжарыла сябе вывучэньнем беларускай мовы. Затрымлівае разьвіцьцё вашай культуры й тое, што беларускамоўная інтэлігенцыя даволі павярхоўна ведае гісторыю сваёй краіны і недастаткова крытычна яе ўспрымае. Людзі праглынаюць усё, што ім прапануецца, ня маюць звычкі аналітычна падыходзіць да зьвестак.

**“НН”: Чаму так?**

**А.Т.:** Бо Беларусь уваходзіла ў Расейскую і Савецкую імпэрыі, якія ніколі ня ведалі дэмакратыі. Насельніцтва было пасіўным, бо за яго заўжды думалі наверсе.

**“НН”: Вы, паводле паходжаньня, ёсьць прадстаўніком тае русафільскае Францыі, якая традыцыйна з захапленьнем і падтрымкаю ставіцца да Расеі, тае Расеі, праз вызваленьне ад якой і фармавалася беларуская нацыя. Як нам заваяваць сымпатыю сьвету? Як, на Вашу думку франуза-русафіла, дабіцца разуменьня нашае беларускае справы французамі і расейцамі? Ці магчыма гэта ўвогуле?**

**А.Т.:** Цяжкое пытаньне. У мяне бачаньне інтэлігента — мне падаецца вельмі важным стварэньне тоеснасьці ў разнастайнасьці. Я бачу пэўныя стэрэатыпы, спароджаныя беларускім нацыяналізмам, бачу схільнасьць спрошчана ўспрымаць беларускую гісторыю. І мноства прабелаў у гістарычнай ведзе. Часта яны мне здаюцца наўмыснымі. Напрыклад, калі гаворка ідзе пра Вялікае Княства. Тутака “неўсьвядомленае” беларусаў ігнаруе, напрыклад, украінцаў, якія таксама маюць права на сваю долю спадчыны Вялікага Княства. О, я ведаю гісторыю Беларусі лепш, чым Вы думаеце, і ніколі не спыняюся разважаць пра яе гісторыю і лёс. Толькі зразумейце мяне слушна. На маю думку, галоўнае, каб беларусы паважалі іншыя народы, культуры. Зрэшты, народ, упэўнены ў сабе, заўжды паважае іншыя народы.

**“НН”: У 1992 г., калі Вы прыехалі ў Беларусь, ядро беларускіх інтэлектуалаў уяўляла сябе бадаўнікам чацьвертае балцкае нацыі, тады як ва ўяўленьні эўрапейцаў і, магчыма, Вашым асабістым уяўленьні Беларусь была ні чым іншым, як проста другой расейскай рэспублікай...**

**А.Т.:** Дакладней, усходнеславянскай. Калі ўзьнікла краіна, дык большасьць жыхароў Францыі меркавала, што ўсё ж мусіць быць нейкая розьніца між расейцамі й беларусамі. Яны мо ня ведалі дакладна, якая...

**“НН”: А расейская інтэлігенцыя, што жыла тутака, ніколі не ўспрымала Беларусь як нейкі самастойны суб’ект. Ці прымірыліся за апошняе дзесяцігодзьдзе гэтыя два радыкальныя бачаньні Беларусі? Узьнік зь іхнага змаганьня нейкі кампраміс, ці яны працягваюць існаваць паралельна — адно незалежніцкае, праэўрапейскае, палянафільскае, другое — русафільскае і настальгічна-ўніянісцкае?**

**А.Т.:** Яны не спалучаюцца. Але трагедыі ў гэтым няма. Грамадзтва не расколецца, не хісьнецца да адной з крайнасьцяў. Гістарычны досьвед залічваецца, нават калі ён кароткі. Краіны Балтыі мелі гістарычны досьвед незалежнасьці, вось яны хутка і рашуча аддзяліліся ад СССР, хутка наблізіліся да Захаду, прынялі заходнія палітычныя і ідэалягічныя дактрыны і нават лад жыцьця наблізілі да заходняга ўзору. Тады як Беларусь за гэтыя гады зблізілася хутчэй з Усходам. Раней мне здавалася, напрыклад, што Беларусь — краіна дзьвюх рэлігіяў, хоць каталікоў і менш, чым праваслаўных. Цяпер у мяне такое ўражаньне, што праваслаўе ўзяло верх, што яно ўсё больш разглядаецца як дзяржаўная рэлігія. Калі сабраць разам усе адрозьненьні, убачыце, што разрыў паміж балцкімі краінамі і Беларусяй большае. Але гэта не пазначае, што Беларусь распускаецца ў Вялікай Расеі.

**“НН”: Ці Францыя можа — і ці хоча — зрабіць нешта, каб дапамагчы беларусам зьберагчы сваю культуру, мову, якім усё ж пагражае пэўная небясьпека?**

**А.Т.:** На маю думку, гэта ня можа датычыць Францыі. Але затое гэта можа датычыць усіх эмігрантаў беларускага паходжаньня ў Францыі, усіх пакаленьняў. На жаль, іх мала, гэта малюпасенькая супольнасьць. Канадзкая і амэрыканская беларускія дыяспары нашмат большыя, і ролю ім наканавана адыграць большую... А болей мне няма што сказаць. Я цікаўлюся Беларусяй як чалавек збоку, хоць мае сваякі перад рэвалюцыяй былі буйнымі землеўласьнікамі тутака ў Беларусі — у Грудзінаўцы, пад Быхавам. Гэтая галіна нашага роду атрымала ў свой час маёнтак, сканфіскаваны ў інсургентаў. Сядзіба яшчэ пяць гадоў таму была ў добрым стане, у ёй месцілася школа. Пасьля школы ня стала, адключылі ацяпленьне й электрычнасьць, і сядзіба стала руйнавацца на вачах. Калі я ўпершыню наведаў яе, там можна было нават жыць.

Я прыехаў у Менск у якасьці аташэ па культуры, і ў тыя гады мяне часта паказвалі па БТ. Сяляне пабачылі мяне ў тэлевізары і прыйшлі ў мясцовую больніцу — а там ёсьць больніца, пабудаваная апошнімі ўладальнікамі сядзібы, дачка якіх прыяжджала на вакацыі лячыць мужыкоў. (Цяпер гэта мясцовы дзяржаўны шпіталь.) Дык вось, яны прыйшлі да галоўнага лекара (гэта, дарэчы, жыд, родам зь Менску, які піша пра гэтую галіну Талстояў) і сказалі яму: “Доктар, граф вярнуўся!..”

**Гутарыў Мікола**

---

гуць прыдушыць у братэрскіх абдымках. Трэба грошы хапаць і ўцякаць. Расейскія капейкі ніколі ня шкодзілі ў беларускай кішэні. Вядома, лепш бы нашыя талерантныя кішэні напаўняліся талерамі, а не рублямі з капейкамі. І напоўняцца. Надыдзе час талераў. Грошы, як і людзі, доўга не жывуць, адно пакаленьне манэтаў зьмяняе другое. Некалі я й марыць ня мог пра тое, што беларус будзе выбіты на манэтцы, а дачакаўся Скарыны й Купалы з Коласам. І талераў дачакаю. А пакуль буду карыстацца паперкамі з лыжнікам, які, як сапраўдны беларускі партызан, схаваўся на паперцы ў 5000 рублёў і бачны толькі на прасьвет.

Цікава паразглядаць грошы на прасьвет. Вось ёсьць, а вось і няма. Адразу разумееш, што грошы — вельмі дынамічнае рэчыва. Таму я з радасьцю сустрэў пераход на электронныя карткі, калі ня трэба паперкі брудныя перабіраць, ня трэба чужую экзэму з грыбкамі насіць у партманэтцы. Грошы ачысьціліся. Колькі іх у цябе, ведаеш адно ты. Банкаўскі служачы ня ў лік. Банкаў многа, а ты адзін.

Толькі ня ўсе народы ўзрадаваліся электронным грошыкам. Ёсьць нацыі, што любяць кэш. Італійцы любяць кэш. Зайдзі ў італійскую краму. Неістотна, дзе яна, — у Вільні, ці ў Празе, ці ў Рыме... І пачуеш, што сёньня апарат для крэдытных картак зламаўся, і лепш разьлічыцца наяўнымі. А расейцы пайшлі далей. У Масковіі табе проста размагніцяць картку. У маскалёў заўсёды свой шлях: ламаць праз калена, а потым плакаць і рамантаваць.

Ня ўсё можна адрамантаваць. Ну, як ты ажывіш трупы грошай? Я з сумам глядзеў на манэты розных часоў і краінаў, запакаваныя ў цэляфан. 1 кг за 10 франкаў. Такія муміфікаваныя грошы, выстаўленыя на вітрыне парыскай нумізматычнай крамы, спынілі мой позірк. Не набыў, не спакусілі. Мне падабаюцца жывыя грошы.

**Менск, 30 траўня 2001 г.**

# Краіна нашых нясправджаных

## *Новыя дакумэнты па гісторыі стасункаў БНР з Францыяй у 1919-1920 гг.*

Працяг са старонкі 1.



Што да "замежнай прэзэнтацыі" першай беларускай партыі, то гэтая падзея, безумоўна, мела вялікае сымбалічнае значэньне, але ніякай рэальнай карысьці нацыянальна-вызвольнаму руху яна не прынесла... Выходзячы з гэткай багатай перадгісторыі, зусім натуральнаю падаецца й гісторыя нараджэньня і сьмерці аднаго пазьнейшага малавядомага дагэтуль праекту, якая паўстае са старонак дакумэнтаў, што друкуюцца ніжэй. Вядзецца пра спробу Ураду Беларускае Народнае Рэспублікі праз сваю дэлегацыю на Парыскай мірнай канфэрэнцыі[1] заахвоціць Францыю ўкласьці грошы ў будову Балта-Чарнаморскага навігацыйнага шляху і такім чынам паспрыяць пасьляваеннаму аднаўленьню Ўсходняе Эўропы ды ўмацаваць пазыцыі БНР. Разьлік быў на тое, што гэткі магутны інвэстар, як Францыя, будзе любым коштам бараніць укладзеныя капіталы, а зь імі й гарант іхнае недатыкальнасьці, то бок дэмакратычны рэжым у Беларусі. Таму, хто б сумняваўся, што тым спадзяваньням было наканавана застацца марнымі, раю перачытаць гэты артыкул спачатку...

Ніжэй пададзеныя дакумэнты выяўленыя мною ў Цэнтры эканамічных і фінансавых архіваў (*Centre des Archives Economiques et Financiures*) Міністэрства фінансаў Францыі, што ў горадзе Савіны-Лё-Тампль. Сыгнатура адзінкі захаваньня: B-31979, нумарацыя старонак адсутнічае. Дакумэнт №1 і дадатак да яго — машынапісныя, дакумэнты №2 і 3 — рукапісныя. Усе дакумэнты ёсьць арыгіналамі. Друкуюцца ўпершыню, у маім перакладзе з францускай мовы.

Дакумэнт 1.

[На блянку Дэлегацыі Беларускай Народнай Рэспублікі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі]

Парыж, 3 [?] ліпеня 1919.

№ 122.

Спадару Міністар,

Сярод праблемаў эканамічнага жыцьця Ўсходняй Эўропы вельмі важнае месца займае пытаньне аб стварэньні навігацыйнага шляху паміж Балтыйскім і Чорным морамі.

Вырашэньне гэтае праблемы залежыць ад трох наваствораных дзяржаваў: Латвіі, Беларусі й Украіны. Але, на жаль, гэтыя дзяржавы ніколі ня здолеюць рэалізаваць гэты праект сваімі ўласнымі сіламі з прычыны нястачы ў іх неабходных капіталаў. Паколькі справа ідзе аб мільярдах (ад 1 і 1/2 да 2 мільярдаў), яны будуць вымушаныя запрашаць замежныя капіталы.

Нямеччына з прычыны краху сваіх плянаў будаўніцтва чыгункі, накіраванай на Ўсход (лінія на Багдад), і зьяўленьня новага праекту Антанты правесьці гэтую лінію па-за нямецкай тэрыторыяй, узялася за распрацоўку новай ідэі, якая прадугледжвае стварэньне вялікага судаходнага шляху з Балтыйскага мора ў Чорнае (да Адэсы).

Сьведчаньнем гэтаму ёсьць артыкул пад назвай *"Der Grosschiffahrtsweg Königsberg-Kijew von Handelskammer-Sindicus Fritz Simon"*, надрукаваны ў адным нямецкім часопісе (Die Ukraine, Januar 1919, Heft 2). Гэты артыкул, у сваю чаргу, разьвівае плян інжынэраў Контага і Сімона, выкладзены ў брашуры *"Königsberg Grosschiffahrtszege nach Litauen, der Ukraine und Polen"* у верасьні 1918 г.

Калі Нямеччына здолее зрэалізаваць названы грандыёзны праект, гэта дазволіць ёй зноўку выйграць на Ўсходзе ўсё тое, што яна згубіла ў Эўропе ў выніку сваёй паразы, а таксама аказваць велізарны ўплыў на лёсы дзяржаваў, зацікаўленых у стварэньні гэтае навігацыйнае лініі.

Такім чынам, Антанта мусіць мець за свой інтарэс выцягнуць гэты козыр з рук Нямеччыны, узяўшы на сябе ініцыятыву стварэньня судаходнага шляху паміж Балтыйскім і Чорным морамі. Дзеля гэтага яна зможа выкарыстаць плян № 1, дзе той шлях праектуецца паміж Дзьвіною й Дняпром, якія цякуць паўз Латвію, Беларусь і Ўкраіну, што дазволіць цалкам выключыць Нямеччыну з гэтае камбінацыі.

Маем гонар перадаць Вам у дадатку ўсе дакумэнты, якія маюць адносіны да гэтага пытаньня[2], з надзеяй, што Вы разгледзіце іх зь цікавасьцю, належнай праекту гэткае капітальнае важнасьці з пункту гледжаньня эканамічнага й палітычнага, і прыцягнеце да іх увагу высокапастаўленых францускіх пэрсонаў, здольных зацікавіцца ягонай рэалізацыяй.

Дзякуючы Вам наперад, просім прыняць, спадар Міністар, запэўненьні ў захаваньні нашай вельмі высокай павагі.

За Старшыню Дэлегацыі

[Асабісты подпіс:

*A. d'Osnobichine*[3]]

Спадару Міністру фінансаў.

Дадатак да Дакумэнту 1.

Парыж, 1 ліпеня 1919

Вялікая навігацыйная лінія паміж Балтыйскім і Чорным морам.

Вялікі гістарычны шлях з Поўначы ў Бізантыю, які праходзіў паўз раку Волхаў, возера Ільмень, раку Ловаць і цягнуўся на поўдзень да Дняпра, калісьці адыграў вельмі важную ролю ў разьвіцьці Ўсходняе Эўропы.

Зараз ён згубіў усю сваю важнасьць. Аднак, ідэя стварэньня вялікай і добра арганізаванай навігацыйнай лініі паміж Балтыйскім морам і Чорным морам, якой маглі б карыстацца караблі зь вялікім танажам, працягвае эвалюцыянаваць і даваць жыцьцё ўсё новым і новым праектам.

Сутнасны ідэяй, што зь іх вынікае, ёсьць ідэя злучэньня Балтыйскага мора з Чорным праз сыстэму каналаў.

Першыя крокі да рэалізацыі гэтага пляну ўжо зробленыя: так, Сергуцкі канал зьвязвае Вулу, прыток Дзьвіны, і Бярэзіну, прыток Дняпра; Агінскі канал яднае Шчару, прыток Нёмана, зь Ясельдай, прытокам Прыпяці, і праз гэтую апошнюю злучае Дняпро з вышэйназванымі рэкамі. Нарэшце, Днепра-Бускі канал яднае прыток Віслы з Прыпяцьцю ды з Дняпром.

Але ўсе гэтыя каналы прымітыўнай канструкцыі ня могуць служыць для навігацыі караблёў вялікага танажу. Не прыстасаваныя для гэтага й рэкі, праз якія ідуць гэтыя тры лініі.

Прычыны такой нядбайнасьці трэба шукаць у цэнтралізаванай палітыцы былога расейскага ўраду, які абсалютна не цікавіўся сваімі "аддаленымі правінцыямі" і не жадаў рабіць вялікіх выдаткаў

> ***Кожны раз крохкая Надзея беларусаў ушчэнт разбівалася аб каменны мур* de la Politique réelle i du Pragmatisme national *французаў***

на іхнюю карысьць. Тым ня менш, ва ўсіх праектах, што датычацца названага судаходнага шляху, ён ідзе паўз гэтыя "аддаленыя правінцыі", то бок Латвію, Беларусь і Ўкраіну, або Літву, Беларусь і Ўкраіну, ці яшчэ Польшчу, Беларусь і Ўкраіну.

Карысьць ад стварэньня вялікай навігацыйнай лініі, даступнай для цяжкагрузных караблёў, настолькі відавочная, што мы нават не зьбіраемся разьвіваць далей гэтую тэму.

У названым пытаньні найбольш зацікаўленыя дзяржавы, праз якія мусіць прайсьці названая лінія, аднак, ня меншым ёсьць інтарэс і краінаў, што маюць эканамічныя зносіны з тымі дзяржавамі. Немцы гэта добра зразумелі па акупацыі краінаў Балтыі, Літвы, Беларусі й Украіны.

У пэўных колах Нямеччыны адразу ж пачалі ліхаманкава вывучаць чатыры ніжэй пададзеныя праекты стварэньня гэтага воднага шляху, каб вылучыць адзін найвыгаднейшы.

— Дзьвіна—Дняпро (простая лінія, якая атрымаецца, калі пракапаць новы канал, што пройдзе праз канал Вула-Бярэзіна);

— Нёман—Шчара — Агінскі канал — Ясельда—Прыпяць—Дняпро;

— Прэгель[4] — Мазурскія азёры — Аўгустоўскі канал — Нёман—Шчара—Агінскі канал—Ясельда—Прыпяць—Дняпро;

— Вісла—Буг — Днепра-Бускі канал — Прыпяць—Дняпро.

Відавочна, што Нямеччына будзе мець усе выгоды, прыняўшы праект №3, які ёсьць найкарацейшым і перасякае ладны кавалак нямецкай тэрыторыі.

Што да дзяржаваў, якія месьцяцца ў Балтыйскім і Чарнаморскім рэгіёнах, яны зацікаўленыя бачыць увасобленым у жыцьцё праект №1 ці №2: першы праходзіць праз дзяржавы-сяброўкі Латвію, Беларусь і Ўкраіну, другі — праз нямецкую Літву, расейскую Літву, Беларусь і Ўкраіну.

Першы з гэтых праектаў мае тую перавагу, што ён робіць гэтую лінію цалкам незалежнай ад Нямеччыны і ня мусіць сустрэць аніякіх пярэчаньняў з боку трох наваствораных дзяржаваў, як з прычыны іхных гістарычных сувязяў у мінулым, так і сёньняшніх супольных эканамічных і палітычных інтарэсаў. Ягоная рэалізацыя патрабуе іхнага супрацоўніцтва і вялікіх капіталаў. Апошняга, на жаль, яны ня маюць, але зараз гэтага не бракуе ні ў Эўропе, ні ў Амэрыцы.

Незалежна ад таго варыянту праекту, які будзе канчаткова прыняты дзяржавамі, што разьмешчаныя на захадзе тэрыторыі былой Расеі, важнасьць ролі Беларусі ў стварэньні гэтае Вялікае Навігацыйнае Лініі ёсьць фундамэнтальнаю. Менавіта гэта прымусіла Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі ўзяць на сябе ініцыятыву па ягонай рэалізацыі.

Паводле справаздачы: *"Königsbergs Grosschiffahrtswege nach Litauen der Ukraine und Polen"*, *von Contag und Simon*. Верасень 1918.

Дакумэнт 2.

Парыж, 9 верасьня 1920.

Спадару Міністар,

Урад Беларускай Народнай Рэспублікі, як наўпрост, так і пры пасярэдніцтве Беларускай Дэлегацыі на Парыскай мірнай канфэрэнцыі, старшыня якой, палкоўнік Ладноў[5], мае належны мандат для вырашэньня ўсіх палітычных і эканамічных пытаньняў, вось ужо больш за год таму захапіў мяне прапановаю, адной з найцікавейшых для францускіх фінансаў. Дарэчы, гэтая прапанова была перададзеная Вам, а таксама сп.Мільерану[6] Консулам Беларусі ў Парыжы[7] 27 траўня гэтага году.

1 чэрвеня Вы палічылі магчымым адказаць, што перадалі гэтую прапанову ў Службу агульнага руху фондаў і што, паколькі пытаньне належыць да дыпляматычнай сфэры ў такой самай ступені, як і да фінансавай, Вы паінфармавалі аб ім сп.Мільерана.

Са свайго боку, Дэлегацыя Беларусі падтрымлівае сталы кантакт зь Міністэрствам замежных справаў.

Беларускі Ўрад, які зараз знаходзіцца ў Рызе, прасіў мяне прыехаць у гэты горад, каб давесьці да яго дакладныя зьвесткі пра стаўленьне францускага ўраду да ягоных прапановаў.

Дарэчы, мне вядома, што беларускі ўрад атрымаў прапановы з боку іншых урадаў, якія абяцаюць, за пэўныя перавагі ў будучыні, адразу ж падтрымаць яго палітычна й фінансава, маючы на ўвазе прызнаньне Беларускае Дзяржавы і дэлімітацыю ейных межаў. Гэта й прымусіла беларускі ўрад прасіць мяне аб тэрміновай зь ім сустрэчы ў Рызе.

Адчуваючы, што вырашэньне пытаньня ня можа больш адтэрміноўвацца, я вырашыў прыняць гэтае запрашэньне.

Мне неабходна ведаць, якія ёсьць сучасныя намеры францускага ўраду, каб вызначыць сваю асабістую манеру паводзінаў падчас сустрэчы з беларускім урадам, што знаходзіцца ў Рызе.

Прыміце, спадару Міністар, запэўненьні ў маёй высокай да Вас павазе.

Geogérald, дэпутат [Нацыянальнага Сходу Францыі],

Старшыня Нацыянальнага камітэту па эканамічнай экспансіі ва Ўсходнюю Эўропу.

Гатэль "Парыж" у Менску.



Salutations de Minsk

Rue Zachariewskaja

# надзеяў

**Ігар ЛЯЛЬКОЎ**
беларускі гісторык, архівіст, займаецца франка-беларускімі сувязямі, аўтар кнігі *"Aperçu de l'histoire politique du Grand-Duché de Lithuanie"*, што выйшла летась у Парыжы.

Дакумэнт 3.
[На блянку чарнавіка Міністэрства фінансаў Францыі]
Загад № 14-508
Ад 20 верасьня 1920
Міністар
Сп. Жажэралю, Дэпутату,
Старшыні Нацыянальнага Камітэту па эканамічнай экспансіі ва Ўсходнюю Эўропу.

У адказ на Ваш ліст ад 9 верасьня маю гонар адзначыць, што ўрад Беларусі не прызнаны нават дэ-факта, і таму ўсе эканамічныя й фінансавыя пытаньні, якія могуць паўстаць у зьвязку з гэтай краінай, ёсьць абавязкова другаснымі ў адносінах да палітычнага пытаньня. У гэтых умовах толькі Дэпартамэнт замежных справаў здолее дакладна вызначыць сучасныя намеры францускага ўраду наконт Беларусі.

Нашыя дасьледнікі гісторыі БНР, магчыма, здолеюць адказаць на пытаньні, ці паехаў сп.Жажэраль па гэткім адказе ў Рыгу, і калі так, дык ці пасьпеў ён там сустрэцца з прадстаўнікамі ўраду Вацлава Ластоўскага перад тым, як яны мусілі пакінуць тэрыторыю некалі сяброўскай Латвіі, якая ў канцы кастрычніка 1920 г. заключыла мірную дамову з Савецкай Расеяй і разарвала дыпляматычныя зносіны зь Беларусяй. Аднак фактам ёсьць тое, што францускі ўрад Аляксандра Мільерана ў гэты момант аказваў моцную фінансавую й мілітарную дапамогу Польшчы, войскі якой займалі большую частку тэрыторыі БНР, а зь іншага боку — прызнаваў адзіным законным урадам Расеі ўрад генэрала Пятра Ўрангеля, вядомага прыхільніка "адзінай і непадзельнай". Для нейкай там Беларусі ў гэтай геапалітычнай камбінацыі кіроўная эліта Францыі места, відавочна, ня бачыла...

**Ігар Лялькоў**

[1] *Міжнародная канфэрэнцыя, скліканая дзяржавамі-пераможцамі ў першай сусьветнай вайне для выпрацоўкі й падпісаньня дамоваў зь пераможанымі дзяржавамі. Праходзіла з 18.01.1919 па 21.01.1920. Пасьля афіцыйнага завяршэньня канфэрэнцыі ў Парыжы засталіся працаваць ейныя працоўныя органы (у 1920—21).*

[2] *Да ліста даданыя: 1) Аналітычная зацемка "Une grande ligne de navigation entre la Mer Baltique et la Mer Noire" (падаецца далей); 2) Францускі пераклад артыкулу Фрыца Сімона пад назваю "Une grande ligne de navigation Königsberg — Kieff" (у гэтай публікацыі не падаецца).*

[3] *Азнабішын А.А., былы Гарадзенскі віцэ-губэрнатар, на той момант — сябар Дэлегацыі БНР на Парыскай мірнай канфэрэнцыі.*

[4] *Ці Прэголя, рака, у вусьці якой знаходзіцца Каралявец (Кёнігсбэрг).*

[5] *Ладноў Я.М., на той час — міністар замежных справаў БНР, старшыня Дэлегацыі БНР на Парыскай мірнай канфэрэнцыі.*

[6] *Мільеран А., на той час — прэм'ер-міністар і міністар замежных справаў Францыі, з канца верасьня 1920 — прэзыдэнт Рэспублікі.*

[7] *Прозьвішча ня высьветленае.*


Прэм'ер-міністар Мільеран з жонкай

## БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Мора ідзе да Беларусі

Калі ў вас, сябры мае, ёсьць машына часу і вы зьбіраецеся перанесьціся ў вясну 2101-га, будзьце асьцярожныя! Нельга лезьці ў будучыню неабачліва. Адзін мой знаёмы вырашыў паглядзець на Санкт-Пецярбург праз 100 гадоў. Прыяжджае — адна вада навокал. Добра, што гумовы човен з сабой узяў, інакш згінуў бы, як рудая мыш.

Пасьпяхова трапіўшы ў будучыню, не задавайце нетактоўных пытаньняў кшталту: «Сёньня што, Дзень мовы, ці вы заўсёды так размаўляеце?» І абавязкова вазьміце з сабой парасон, шорты і гумовікі.

А вось рублі з вадзянымі вызнакамі лыжнікаў браць ня варта – у будучыні яны ня маюць хаджэньня. Пашукайце лепш зайчыкаў, вавёрачак, зубрыкаў — у любой нумізматычнай краме рарытэт, першыя грошы беларускай дзяржавы, у вас ахвотна набудуць. Адзін мой знаёмы нават спрабаваў зарабляць такім чынам на жыцьцё.

Напэўна, усе чулі пра пацяпленьне клімату і парніковы эфэкт. Канцэнтрацыя вугляксілага газу ў паветры павольна, але няўхільна павялічваецца. Сонечнае сьвятло праходзіць праз гэты газ безь перашкодаў, але частку інфрачырвонага выпраменьваньня, праз якое Зямля аддае цяпло ў космас, ён затрымлівае. Параўнайце апісаньне беларускай зімы ў «Геаграфіі» Смоліча з тым, што было ў нас апошнія гады, і пераканайцеся, што пацяпленьне сапраўды адбываецца.

Яно неаднолькава адаб'ецца на розных частках зямной кулі. У экватарыяльных джунглях амаль ня будзе зьменаў, у стэпах стане яшчэ больш горача і суха. Да ліку нямногіх земляў, якім пацяпленьне пойдзе на карысьць, належыць наша Беларусь. Наш клімат зробіцца больш цёплым і вільготным. Ня будзе зазімкаў увесну і ўвосень, празьмернай гарачыні ўлетку і вялікіх маразоў зімой. Ужо цяпер на Наваградчыне штогод высьпяваюць абрыкосы, а на скрайнім поўдні можа добра расьці й персік. Да бананаў і какосаў справа, аднак, ня дойдзе.

Антарктыда паступова растане, і ўзровень акіяну ўздымецца на 60 мэтраў. Беларусь ляжыць ад 80 да 345 мэтраў над сёньняшнім узроўнем мора, і нашая краіна не патоне. Але мора будзе так блізка ад Горадні, што трэба будзе толькі паглыбіць рэчышча Нёмана, каб атрымаць выхад да мора. «Калі Беларусь ня ідзе да мора — мора ідзе да Беларусі», — будуць казаць нашыя нашчадкі.

**Сяржук Карбоўскі**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Штотыдня — фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў рубрыцы "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

## Ліст у рэдакцыю

# *La vraie Bérézina!*

Здаецца, што *Bérézina* – гэта адзінае слова ў францускай мове, якое нагадвае пра Беларусь. Як усё беларускае за мяжой, яно падаецца альбо пад польскім, альбо пад расейскім соўсам, нават назва ракі вымаўляецца на расейскі кшталт. Выраз пазначае жудасную паразу, катастрофу. Сёньня гэты панятак можа быць выкарыстаны ня толькі французамі, але й беларусамі, каб апісаць узровень ведаў эўрапейцаў з Захаду пра Беларусь і беларускую культуру.

Калі доўгі час знаходзішся ў Францыі й штодзённа сутыкаешся зь ейнымі жыхарамі, пачынаеш раптам вымаўляць: *"La vraie Bérézina!"* Ад таго, што на пошце паштарка правярае ў кампутары, ці існуе гэткая дзіўная краіна з назвай "Беларусь". Ад таго, што калі й ёсьць кнігі беларускіх аўтараў, дык месьцяцца яны на паліцы расейскай літаратуры. Ад таго, што на лекцыі пра ўніяцтва прафэсар сьцьвярджае, што Берасьце – украінскае места, а салідная энцыкляпэдыя *"Quid 2001"*, даючы інфармацыю аб канфэсіях у Беларусі, пазначае, што "беларускія сучасныя ўніяты – гэта, галоўным чынам, украінцы, якія жывуць у Беларусі". Ад таго, што ў


Страсбургу на чале асацыяцыі расейска-францускага сяброўства стаіць

беларус. А тутэйшыя французы просяць дапамагчы напісаць ліст па-расейску, бо для іх "беларусы й расейцы размаўляюць адною моваю".

Гартаючы тутэйшую прэсу, у галаве аўтаматычна выскоквае: *"La vraie Bérézina!"* Бо, дзякуючы францускім журналістам, даведваешся, што "Ян Чэрскі – польскі палеантоляг", а сярод "навінак сучаснай расейскай літаратуры" фігуруе пісьменьніца Сьвятлана Алексіевіч.

У лінгвістычных энцыкляпэдыях часта блытаюць "белую рускую" і "малую рускую" мовы. А ў энцыкляпэдыі "Мова", што зьявілася ў выдавецтве *"Pléiade"* можна прачытаць, што на "белай рускай мове" размаўляюць пад 37 млн. чалавек!

Гэтыя развагі ня ёсьць крытыкай ані ў бок французаў, якія нічога ня ведаюць пра краіну-Бярэзіну, ані ў бок беларусаў, якія нічога ня робяць, каб акрамя Бярэзіны пра іх штосьці ведалі ў сьвеце. Гэта проста ўражаньні ад той сытуацыі, якая склалася вакол вобразу нашай краіны (ці хутчэй ягонай адсутнасьці) у Францыі.

Карацей, *la vraie Bérézina!*

**Уладзіслаў Гарбацкі,**
**Страсбург**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**В.Васюлькі,** Вялейск. пав. Віленск. губ. Гадоў 10 таму назад тут былі такія ціхія і добрыя хлопцы, што аж міла. Яны сабе гулялі, як і гожа дзецям гуляць: качалі качалку, бегалі навыперадкі, браліся ў дужкі, плавалі на чоўне па ставе, і нікому ад іх бяды не было. Пасьля, калі яны павырасталі, то ўсё роўна засталіся добрымі людзьмі. А цяпер ня тое. За цяперашнімі дзецюкамі няма праходу ні днём, ні ноччу. Езьдзючы ў горад на заробкі, панавучаліся там піць гарэлку ды біцца: кожны зь іх носіць у кішэні нажы і жалезныя лапы і др. Дзяцюк, каторы ня здужае біцца з другімі дзецюкамі, б'ець хоць дзевак ці малых хлопцаў ні за што, дзеля таго, каб толькі над кім-небудзь пазьдзекавацца. Малыя хлопцы, угледаючыся на старых дзецюкоў, стараюцца патураць ім: вучацца да гарэлкі, кураць табаку, крадуць, здзекавацца над жывёлай, дый сьпісаць усё трудна. Якое ж пакаленьне грамадзян вырасьце з гэтых дзяцей?

**Ніна Іванова**
**7 ліпеня 1911 г.**

# Мусю француз, ці не зьясі гарбуз?

## *Прыказкі беларусаў аб французах з тлумачэньнем гістарычнага паходжаньня й сэнсу*

Андрэй Катлярчук

**"Скакнуў, як кароль Генрык за мора"** – гістарычная фразема, пашыраная ў творах старабеларускай літаратуры XVI–XVII ст. (напрыклад, у "Прамове Мялешкі"). Генрык Валеза (Valois, 1551–1589), ці "Генрык Француз", як звалі яго ў ВКЛ, быў у 1574 г. абраны на караля польскага й вялікага князя літоўскага, але праз 7 месяцаў нечакана зьбег у Парыж, каб пад імем Генрыка III заняць францускі трон. Як падкрэсьліла "Кроніка Магілёва": "...панаваўшы толькі месяцаў сем Генрык зьбег да Францыі". Гісторыя з ад'ездам караля – зьнявага польскай і літоўска-беларускай кароны на карысьць францускай – набыла асабліва шырокі розгалас сярод беларускай шляхты. Па-першае, была крыўда, што кароль гэтак і не наведаў Літвы. Па-другое, прычыны ўцёкаў Генрыка літвіны-беларусы бачылі ў дзяржаўным бязладзьдзі Польшчы. *Sine rege sine lege* (няма караля – няма закону)[1] – казала шляхта. Шляхта лічыла, што непарадак у Польшчы нарэшце загубіць і Вялікае Княства. Прыгадаем, што толькі 5 гадоў таму (1569) была заключаная Люблінская унія, якая злучыла Літву-Беларусь з Польшчай у адно фэдэратыўнае гаспадарства. Літвіны моцна працівіліся падпісаньню Уніі. Абгрунтоўваючы законнасьць яе, польскія сэнатары паказвалі літвінам старажытныя дамовы паміж ВКЛ і Каронай (напрыклад, Гарадзельскі прывілей), але беларусы зьняважліва называлі іх "кудзелькамі"[1]. Сэпаратызм літвінаў праяўляўся і пасьля. У Статуце ВКЛ 1588 г. Люблінская унія ўвогуле ня згадвалася (!). Такім чынам, прыказка "скакнуў як кароль Генрык за мора" падкрэсьлівала іранічнае стаўленьне беларускай шляхты да палякаў і Польшчы. Таксама, як іншыя:

– дажыліся палякі – ані хлеба ні табакі;

– хуць да Кракава – усюды адзінакава.

**"Хоць ты мяне капут, то я не галём".** (Не пайду, хоць забі.) Камэнтуючы гэтую прыказку часоў вайны 1812 г., А.Фядосік і М.Грынблат сьцьвярджаюць, быццам менавіта так "з тлумачэньняў зьбіральнікаў", беларускі селянін-праваднік адказаў "францускім захопнікам" (?!). Незразумела толькі, адкуль селянін ведаў па-нямецку. Беларускі этнограф Ян Чачот прапаноўваў зусім іншае тлумачэньне: "Так казалі немцы-праваднікі ў войску Напалеона". Заўвага беларускіх дасьледчыкаў савецкага часу – тыповы прыклад ідэалягізацыі навукі, у гэтым разе імкненьня сьцьвердзіць барацьбу сялянаў-беларусаў супраць французаў на баку расейцаў.

**"Ад французаў у месьце не было чутно ані звона, ані пеўня – першы быў забаронены, а другі зьедзены".** Гэтая гістарычная прыказка ўзьнікла ў часе побыту французаў у Віцебску. 16 ліпеня 1812 г. шляхта й мяшчане Віцебску трыюмфальна сустрэлі Напалеона. Маладзіцы літаральна засыпалі кветкамі імпэратара, што аднавіў ВКЛ. Францускае войска дабраславілі ня толькі каталіцкі й уніяцкі біскупы, юдэйскі рабін, але нават праваслаўны ўладыка, архіяпіскап Варлаам (Шышацкі). Уражаны гэткім вітаньнем, Напалеон прамовіў да прызначанага губэрнатара, маркіза Пастарэ: "Калі ласка, глядзіце на Літву й Беларусь як на сяброўку, а не як на заваяваную краіну". Кожны, хто прысягнуў на вернасьць Францыі (а ў Віцебску гэта зрабілі амаль усе), атрымаў каляровую цэшку, якую павінен быў пачапіць на рукаво. Новая ўлада ўмацавала муры, правяла перапіс насельніцтва, але хутка стаўленьне месьцічаў да французаў пагоршала. Па-першае, зыходзячы з вайсковых патрэбаў, французы перабудавалі ўсе мураваныя храмы Віцебску ў абарончыя аб'екты. Са званіцаў паздымалі званы й паставілі туды гарматы, у храмах перасталі служыць. Па-другое, вялізнай арміі трэ было тры разы на дзень есьці. Спакваля ўсе харчы ў горадзе скончыліся. Жаўнеры сталі ладзіць рэквізыцыі. Віцебскае паданьне кажа, што, "калі адзін паляк-генэрал з францускага войска праходзіў гародамі, ён пабачыў старую, якая там корпалася ў зямлі. Спыніўшыся, ён запытаўся ў бабулі: "Чаго вы шукаеце?" Яна адказала, што шукае гародніны, але хіба нешта знойдзеш пасьля французаў. Тады генэрал запытаўся, ці была калі ў жыцьці старой такая ж цяжкая часіна. Тая прароча адказала: "Памятаю такі самы час, калі наляцела на Беларусь саранча, якая ўсё вынішчыла, але прыйшла зіма, і ўсе інсэкты раптоўна загінулі". Такім чынам, калі французы пабылі ў горадзе, стаўленьне да іх памянялася на кепскае. Менавіта гэта й адбілася ў прыказцы.

**"Каб француз пабіў маскаля, дый сам не вярнуўся".** Гістарычны фразэалягізм, які адлюстроўвае стаўленьне беларусаў да канфлікту дзьвюх Імпэрыяў. Уваходжаньне ВКЛ у склад Расеі ў канцы XVIII ст. пагоршыла стан літоўскіх і беларускіх сялянаў. Узмацніўся прыгон, шмат каралеўскіх сялянаў раздалі буйным расейскім земляўласьнікам. На літоўскія й беларускія губэрні распаўсюдзілася рэкруцтва. Усё гэта настройвала беларусаў супраць новай, "маскоўскай" улады. Згодна з паданьнем, "калі Напальён шоў на Маскву, ён па дарозе сустрэў бабулю й запытаў, як на яе думку лепш: каб француз разьбіў расейца, ці расеец – француза? Старая, пачухаўшы патыліцу, адказала: добра, каб француз захапіў Маскву й пагнаў расейцаў далей, пагнаў, пагнаў дый сам не вярнуўся".

**"Так турнуў, як Кутуз француза", "Як ад Кутуза Банапарт"** (г.зн. вельмі хутка). Адступленьне французаў ад Масквы ў Беларусі ператварылася ў панічныя ўцёкі. Расейскім войскам кіраваў генэрал-фэльдмаршал М.Кутузаў, альбо "Кутуз", як яго клікалі ў Беларусі[2].

**"Баіцца холаду як француз", "Пякуцца французы бы бульба ў прыску" "Галодны француз і вароне рад".** Падчас адступленьня сярод францускіх жаўнераў пачаўся голад, акрамя таго, цісканулі незвычайныя для восені маразы. У лістападзе 1812 г. французы траплялі ў палон апранутымі ў жаночыя хусткі, кілімы, коўдры, конскія папоны, кажухі. Шмат іх загінула ад голаду й холаду. Пра гэта вобразна распавядае беларускае паданьне: "У 12-м годзе падняўся на белага рускага цара француз Напальён. Нагнаў ён сюды войска, бы цёмная хмара... Зьнішчылі французы увесь край, змарнавалі ўсё дабро, так што й самі пачалі падыхаць з голаду... Сам цар Напальён ходзіць сабе па балоце ды ловіць жабы або чарапахі[3], каб падсілкавацца... Соваюцца галодныя французы, бы сонныя мухі, зьбіраюць чарвякоў, жукоў ды ўсялякіх сьлімакоў, каб хоць гэтаю поскудзьдзю набіць сабе лантух". У лістападзе-сьнежні 1812 г. беларусы замест стройных францускіх шыхтоў пабачылі натоўп голодных, хворых, змучаных людзей. Вось як успамінала аб гэтым у 1896 г. 100-гадовая бабуля Ганна Ласоціха зь вёскі Шыдлоўцы Ваўкавыскага павету: "Аднаго разу надышлі шмат галодных французаў, а людзі павыкопвалі пагрэба й пахавалі ежу дзе хто змог. Яны (французы) уляцелі да нашай хаты, усе гяргешчуць па-свойму ды поруць па падлозе, поруць а нічога ня знойдуць. Так адзін схапіўся на гару, а там ляжаў нейкісь асмалак, ён думаў што кумпяк ды давай яго грызьці. Вось што вайна рабіла". Ёсьць сьведчаньні што беларускія сяляне дапамагалі хворым французам, давалі ежу, ручнікі на перавязкі.

Працяг на старонцы 12.

**АНДРЭЙ КАТЛЯРЧУК**
**кандыдат гістарычных навук, дактарант Расейскай Акадэміі навук. Працуе ў Санкт-Пецярбургу, у Кунсткамэры. Паходзіць з Турава. Сёлета выйшаў ягоны артыкул "Беларусы Бранскага краю" ў ARCHE, №2, ягоная кніга "Праздничная культура в городах России и Белоруссии XVII века". Ён рыхтуе да друку кнігу "Швэды ў гісторыі і культуры беларусаў".**



[1] Радаводам "па кудзелі" беларусы называлі радавод па жаночай лініі, у адрозненьне ад радаводу "па мячы", г.зн. па бацьку.

[2] Цікава, што іншага расейскага генэрала М.Барклая-дэ-Толі беларусы называлі "Баўтай у торбе". // Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем. Санкт-Петербург, 1874. С.6.

[3] Сьведчаньне таго, што простыя беларусы ведалі аб асаблівасьцях францускай кухні.

# Беларуская калекцыя выдавецтва *l'Harmattan*

Сапраўдны прарыў у францускім беларусазнаўстве адбыўся з пачаткам выданьня сэрыі кніг "Беларуская калекцыя" ў парыскім выдавецтве *Harmattan*. Пачалася яна з кнігі Ігара Лялькова "Агляд палітычнай гісторыі Вялікага Княства Літоўскага" (2000). Сярод сёлетніх навінак – кніга Алены Лапатнёвай "Беларусь: мізансцэны ўлады", выданьне пад рэдакцыяй Аляксандры Гужон, Жана-Шарля Ляльмана і Віржыніі Шыманец "Хронікі пра сучасную Беларусь" і ўспаміны жонкі першага пасла Францыі ў Беларусі Ані Жаліф "Беларуская прыгода".

Самае бэлетрыстычнае і лёгка напісанае з гэтых трох выданьняў – эсэ Ані Жаліф. Стварэньне францускай амбасады "на голым месцы" апісваецца аўтаркай як незвычайная, рызыкоўная авантура. У вачах беларусаў прыбыцьцё дыпляматаў надавала рэальную афарбоўку незалежнасьці краіны, таму пяць гадоў перабываньня ў Менску пакінулі добрае ўражаньне ў мадам Жаліф, і яна не хавае сваёй сымпатыі да Беларусі. Будучы з адукацыі спэцыялістам у палітычных навуках, спадарыня Жаліф не цураецца ў кнізе й палітычнага аналізу беларускае сытуацыі, але найперш глядзіць на рэчаіснасьць вачыма жанчыны. Чытаючы яе кнігу, нібы вяртаешся ў пачатак 90-х, але бачыш Беларусь пры гэтым францускімі вачыма: вось спадарыня Жаліф едзе з мужам-паслом у Беларусь. Пры сабе яны маюць толькі пасольскі сэйф зь пячаткай і 10 тысячамі даляраў дробнымі купюрамі. Яны едуць на сваёй "Пэжо" зь Берасьця па менскай трасе. Вакол буяе сіні лубін. У ваколіцах гарадоў паўстаюць першыя катэджы ў маўрытанскім стылі. На дарогах – рэдкія "Жыгулі". Прыяжджаюць у "пасольства" – нумар у гатэлі "Беларусь" з санвузлом з "іржавай сантэхнікай у вясковым стылі", як мякка выражаецца спн.Жаліф. Ладзяць першы прыём на 14 ліпеня, перабіраюцца ў Дразды... Першы менскі прыватны рэстаран – белы мармур, чорная мэбля... Ягоны ўладальнік таямніча зьнікае... Менск, пабачаны знутры.

Іншыя кнігі – навуковыя. У прадмове да кнігі А.Лапатнёвай, парыскай дасьледчыцы беларускага паходжаньня, францускі навуковец Ален Блюм піша: "Кніга прапануе для гісторыкаў і палітолягаў, якія сёньня ўсё больш цікавяцца формамі ўлады й кіраваньня, каб зразумець прыроду пэўнае нацыянальнае гісторыі, няшчасны і, на жаль, малавядомы "досьвед" таго, як на маланаселенай тэрыторыі паўтараюцца тыя элемэнты гісторыі, што былі вызначальнымі для XX стагодзьдзя.




Яна дапамагае таксама наблізіцца да разуменьня вычварнага і абсурднага. Яна дае нам пэўныя зьвесткі пра тое, якім чынам разыгрываюцца "мізансцэны" дэмакратыі і ўяўнага (а, магчыма, часткова й рэальнага) народнага суўдзелу ў формах кіраваньня, практыкі якіх адмаўляюць любую форму суўдзелу і дэмакратыі, а вынікі якіх толькі глыбей заганяюць краіну ў роспачны стан... Яна таксама паказвае крохкасьць такое формы кіраваньня, адзінай легітымізацыяй якой ёсьць гвалт, самавольства і інсцэнаваньне ілюзорнага народнага ўдзелу".

"Хронікі пра сучасную Беларусь" складаюцца з артыкулаў розных аўтараў, якія працуюць у розных галінах навукі і чый дасьледчыцкі інструмэнтар істотна розьніцца. У разьдзеле "Гісторыя" друкуюцца артыкулы "Беларусь, множная гісторыя" Бруна Дрвэскі, "Дасьледаваньне ўяўленьняў пра гісторыю ў Беларусі" Алены Лапатнёвай і "Адраджэньне жыдоўскай гістарыяграфіі ў Беларусі: між гісторыяй і памяцьцю" Клер Лё Фоль. У разьдзеле "Палітыка і эканоміка" – "Аўтарытарны пераход: ідэалягічныя асновы і палітычныя практыкі" Аляксандры Гужон, "Бітва прэзыдэнцкіх кланаў: стратэгіі кааптацыі ў аўтарытарны рэжым" Жана-Шарля Ляльмана, "Эвалюцыя эканамічнай сытуацыі ў Беларусі з 1991 да 1999 г." Надзі Лісоўскай. У разьдзеле "Міжнародныя стасункі" – "Беларусь на міжнароднай арэне: між ізаляцыяй і інтэграцыяй" Вольгі Бяловай, "Продаж зброі па-леваму і па-праваму" Жана-Шарля Ляльмана. У разьдзеле "Культура" – "Аляксандар Лукашэнка і беларусы ў люстэрку анэкдотаў" Амандыны Рэгамэ, "Францускае культурнае супрацоўніцтва зь Беларусяй" Вольгі Чалновай і Філіпа Бэрнара, "Аўтарытарныя культуры" Віржыніі Шыманец. У разьдзеле "Чарнобыль" – "Чарнобыльская катастрофа і здароўе" Мішэля Фэрнэкса, "Адказнасьць Захаду за ўплыў чарнобыльскай катастрофы на здароўе жыхароў Беларусі, Украіны й Расіі" Бэлы Бэльбэок, "Жыцьцё ў забруджанай зоне, або парадоксы кіраваньня рызыкай" групы аўтараў.

Зьяўленьне сэрыі мы заўдзячваем высілкам Аляксандры Гужон і Віржыніі Шыманец, нашчадкаў беларускіх эмігрантаў, маладых францускіх навукоўцаў.

**Каштуе кожная з кніг каля 20 даляраў + кошт перасылкі. Замовіць можна ў выдавецтве *L'Harmattan, 5–7, rue de L'Ecole-Polytechnique 75005 Paris (Tel. 01 40 46 79 21).***

Сяргей Балахонаў

Да 170-годзьдзя народзінаў

# Літвін з барадою Маркса

**Бавячы ў дзяцінстве лета ў вёсцы Рудня-Гулева на Веткаўшчыне, аднаго разу я трапіў у прышкольную качагарку. Там, поруч з крошкаю торфу, ляжала купа ўсялякіх кніг. Сярод шматлікіх *"Deutsch'аў"*, "фізыкаў" ды "пачатковай ваеннай падрыхтоўкі" я раскапаў вокладку і франтысьпіс з выявай барадатага чалавека. Самі старонкі былі некім вырваныя. Тады па тэлевізіі, акурат як цяпер мыльныя опэры, бяз памяці круцілі шматсэрыйны фільм "Карл Маркс. Маладыя гады". Дык мне падумалася, што бачу якраз ягоны партрэт. Зірнуў на вокладку і зьдзівіўся: "Вінцэсь Каратынскі?! Хто гэта?" Пошукі тэксту кніжкі былі марныя...**

Вінцэсь Каратынскі нарадзіўся 15 чэрвеня 1831 г., калі яшчэ не пасьпела астыць зброя вызвольнага антырасейскага паўстаньня. Як шмат хто з таго пакаленьня, Вінцэсь усё жыцьцё балюча вагаўся душою й сэрцам, шукаючы адказу на пытаньне: "Хто я такі?" Бацька, што рана сышоў у лепшы сьвет, нічога растлумачыць не пасьпеў. Вясковы арганіста, які навучаў па-польску, з бабамі сварыўся па-беларуску, а жыду мог сказаць колькі слоўцаў на ідыш, спрабаваў, верагодна, выхаваць хлопца палякам. Але паэтычная сузіральнасьць выкрывала супярэчнасьці, ад якіх іншым разам не бывала спакою: чаму на адной зямлі суіснуюць пальшчызна й беларушчына? Чаму людзі адначасова завуць сябе і палякамі, і літвінамі, а часам і русінамі? Урэшце, што ж такое Літва сама сабою?

Знаёмства з Уладзіславам Сыракомлем перакапала ў слушнасьці развагаў, але нават знаны "вясковы лірнік" ня мог разьвеяць сумневаў Каратынскага, маючы ў сабе той самы быцьцёвы клопат. Абодва разумелі, што беларуская (крывіцкая, русінская) мова "такая ж людзкая і панская", як і іншыя, і нават пісалі на ёй вершы. Аднак, збольшага ў шуфляду. А першы паэтычны зборнік Каратынскага "Чым хата багата" (1857) складаецца з польскіх вершаў. Здаецца, тады не было заганай выказаць па-польску любасьць да роднага краю. Але ці ня мучылі паэта згрызоты й душэўная мулкасьць пасьля ўсіх гэтых польскамоўных услаўленьняў радзімы? Хоць для заспакаеньня такіх пачуцьцяў можна было пачытаць Георга Самуіла Бандткэ, які сьцьвярджаў, што польская мова ў ВКЛ ладна пашырылася яшчэ за часы Жыгімонта Старога. Дзеля заспакаеньня можна было й проста пісаць пра народ, што Каратынскі й рабіў, зьвяртаючыся, хай сабе па-польску, да тых, "хто ў шкарлупе сядзеў сутулы".

А падпіўшы ў пачэсным таварыстве, льга было ў адзін альбом пісаць аб "сардэчных панях" ды аб "мужыцкіх панах" ("Альбом Арцёма Вярыгі-Дарэўскага", 1858 г.), а ў іншы — пра лунаньне польскага духу ("Альбом Цэліны Кіркор", 1860 г.). Акрамя таго, Каратынскі "паклонна вітае "сонечнага" расейскага імпэратара Аляксандра II (1858) зь легальнае нагоды на паўзабароненай мове, кідаючы ў вершаванае вітаньне мноства двухсэнсоўных выразаў і мэтафар. Як разумець покліч "братцы, да дзела, да дзела!", калі слова "дзела" пазначала ня толькі справу, працу, але яшчэ й зброю? А "жаўценькі пясочак" у падарунак імпэратару? Гэта табе ня хыхі, як казаў калісьці Мялешка. Зрэшты — была б ахвота — мэтафары й цьмянасьць разьлятаюцца ў бакі, а рука выводзіць на паперы:

Чы Бог ня зьмілуецца над намі
І дасьць пагінуць пад Маскалямі?...

Дзе тут сапраўдны Вінцэсь Каратынскі? Ён адначасова і паўсюль і нідзе. Паўстаньне 1863—64 г. сталася мяжою, кардонам, які адцяў ранейшую эпоху, калі можна было вагацца з уласным этнакультурным вызначэньнем. У 1864 г. Каратынскі напісаў элегію "Туга па чужой старане", якая сталася шэдэўрам нацыянальнай патрыятычнай лірыкі XIX ст. "Я ж зямліцу меў радную..." Здаецца, яшчэ адзін крок — і адбылося б пераадоленьне душэўнага вэрхалу, і ён назваў бы сябе беларусам, крывічом, русінам. Але ён застаецца літвінам паводле нараджэньня і палякам паводле зьбегу абставінаў. У 1866 г. Каратынскі зьяжджае ў Варшаву, уцякаючы ад сябе й расейскага абвалу на Беларусі. Толькі ж ад сябе не ўцячэш. Прывід "роднай зямелькі" не пакідаў Каратынскага да скону. Варшаўскія палякі не забываліся на ягонае паходжаньне, называлі "барадатым літвіном". Магчыма, нават барада выконвала ролю свайго кшталту маскі. Як казаў адзін з герояў Умбэрта Эка, кожнае пакаленьне мае сваё адчуваньне несвоечасовасьці зьяўленьня на гэты сьвет. І трэба змагчы гэтую несвоечасовасьць, каб вокладкі тваіх кніг не валяліся ў істопках пад тарфяною крошкай.

# Невядомыя дакумэнты Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату

**Увосень 1939 г., на пачатку другой сусьветнай вайны, мітрапаліт Андрэй Шаптыцкі стварыў Беларускі Грэка-Каталіцкі Экзархат. Праз год, 17 верасьня 1940 г. экзархам БГКЦ быў прызначаны а.Антон Неманцэвіч. Працаваць яму давялося спачатку пад бальшавіцкай, а пасьля пад нямецкай акупацыяй.**

**Дасёньня беларускія навукоўцы, дасьледуючы гэты пэрыяд гісторыі БГКЦ, у якасьці асноўнай крыніцы інфармацыі бралі ўспаміны а.Лява Гарошкі, у якіх хапае недакладнасьцяў. Выяўленыя нядаўна ў Львоўскім Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве справаздачы а.Неманцэвіча асьвятляюць некаторыя пытаньні з гісторыі Беларускага Грэка-Каталіцкага Экзархату.**

**Неманцэвіч браў удзел у трох Саборах экзархаў у Львове: 18—19 верасьня 1940 г., 13—16 чэрвеня 1941 г. і 9—15 чэрвеня 1942 г. У чэрвені 42-га экзархі і мітрапаліт Шаптыцкі радзілі а.Антону Неманцэвічу паехаць у Жыровічы да праваслаўных гіерархаў, што, на іх думку, зьмяніла б стаўленьне апошніх да Уніі (ЦДГАЛ, ф. 201; воп.1, спр.16, арк.146 аб.).**

**Невядома, ці пасьпеў а.Неманцэвіч наведаць Жыровічы, але праз некалькі дзён пасьля вяртаньня зь Львову ён быў арыштаваны ў Альбярціне гестапаўцамі...**

**Мітрапаліт Шаптыцкі зрабіў усё магчымае, каб даведацца пра лёс а.Неманцэвіча. У лісьце ў Рым да кардынала Яўгена Цісэрана ад 14 жніўня 1943 г. ён пісаў: "Пасьля доўгіх месяцаў, як Экзарх а. Неманцэвіч зьнік, гэтая тайна яшчэ не была вычарпальна вырашана. Але згодна з інфармацыямі, якія я атрымаў, здаецца зусім пэўным, што ён быў забіты..."**

**Сяргей Ёрш**

"Справаздача з працы ўнійнай Беларускага Экзархат[у] за час ад апошняга Сабору Экз.[архаў] (18-19/XI-1940) да 12/VI-1941 г.

Пакуль што экзарха не выяўляў вонкава сваіх паўнаўладаў, таму ўся праца ёсьць прыгатаваўчая.

За гэты час экзарха навязаў добрыя адносіны з праваслаўным настаяцелем у Альбертыне. Гэты настаяцель, калі сам ня можа пахаваць памёрлых з суседней ля Альбертына вёскі Чапялёва, адсылае да мяне, было такіх 2 выпадкі, гэта дае нагоду да зьбліжэньня гэтых людзей да Сьв.Уніі.

Хоць царква ў Альбертыне занятая праз войска пад жаўнерскае кіно, аднак служба адбываецца пад касьцёлам акуратна кожнаю нядзелю і сьвята, зьбіраецца каля 20 асобаў, заўсёды гаворацца казані па-беларуску для ўзмацаваньня веры.*

Экзарха на сьв. Сьв.Юра езьдзіў да Дэлятыч**, там было людзей поўная царква, апрача экзархі з настаяцелем служыў навуку а.Гарошка; гэта ўрачыстасьць вельмі дадатна ўплынула на веруючых.

Экзарха назначыў сваім вікарым генэральным а.Аношку, на яго пераходзіць уся ўлада э[к]зархі на выпадак арышту або перашкоджаньня, калі б а.Аношка быў перашкоджаны, ўлада пераходзіць на а.Гарошку, яны таксама належаць да рады Экзархату.

А.Экзарх пераклаў пастанаўленьне Сабору Экз. з 1940 г. з украінскае на расейскую ды беларускую мовы, пачаў пісаць у форме гутаркі адказы веруючага на закіды недаверка.

Кс.Віктар Шутовіч пачаў перакладаць на беларускую мову дагматычныя казані-навукі, іншыя беларускія ксяндзы абяцалі сваю працу ў пісьменьніцтве. Некалькі ксяндзоў лацінскага абраду вучацца адпраўляць Сьв.Літургію па ўсходнім абрадзе.

12/VI - 1941
а.А.Неманцэвіч"

(ЦДГАЛ, ф. 201, воп.1, спр.16, арк.[?]33,33 адв., арыгінал, рукапіс.).

"Exarch
der gr. – Kat. Kirche
in Weissruthenien

Ekzarch
hr. – Kat. Carkvy
na Bielarusi
Albertin bei Slonim
"9" červienia 1942
' 38.

Справаздача Беларускага Экзархату за час 1941 г. чэрвень па травень 1942 г.

Праз цэлы час 1941 г. як Экзарх Беларусі я вонкава не выступаў: пры бальшавікох гэта было небясьпечна, калі пры[й]шлі немцы і ўстанавілі ўладу, 5 сьнежня 1942 г. прадставіў я свае дакумэнты і прасіў, каб пазволілі мне прыступіць да выкананьня маёй улады.

16/III атрымаў я ад Генэральнага Камісара Беларусі дакумэнт, якім прызнае сьвецкая ўлада мяне за Экзарха і дазваляе выконваць маю ўладу на Беларусі.

20/III разаслаў я паведамленьне праз Гэбітскамісара да Мітрапаліта Шэптыцкага, Мітрапаліта Ялбжыкоўскага і Япіскапа Букрабы, што прыступаю да выкананьня маёй улады.

На Вялікдзень (5/IV – 1942) разаслаў Пастырскае Пасланьне да духавенства і верных Беларускага Экзархату.

За гэты час вонкавага майго выступленьня здарыліся 2 сумныя факты: нязлучаныя праваслаўныя ад[а]бралі ў нас 2 ца[р]квы з прыходамі: у Бабровічах і Сы[н]ковічах***, прадстаўляючы ўніятаў як палякаў і унію як польскую веру.

У жніўні 1941 г. пасьвяціў я спрафанаваную праз бальшавікоў царкву нашу ў Альбэртыне, цяпер у ёй адпраўляецца служба Божая, а за бальшавікоў было кіно. Занялі мы некалькі комнат у кляштары і туды пераехалі жыць.

9 красавіка 1942 г. езьдзіў я да Баранавіч, абсталяваў пячатку Экзарха і штамп: наладжаная прапаганда Уніі праз Баранавіцкую Газэту.

а.А.Неманцэвіч
Экзарх Гр.К.Царквы
на Беларусі"

(ЦДГАЛ, ф. 201, воп.1, спр.16, арк. 142, 142 адв., арыгінал, рукапіс са штампам Бел. Экзархату.)

* Паводле сьведчаньняў альберцінскіх грэка-каталікоў, набажэнствы патаемна адбываліся ў сутарэньнях мясцовага касьцёлу з восені 1939 г., калі ў Альбярціне знаходзіўся ўніяцкі сьвятар а.Вальтэр Цішэк.

**Вёска на Наваградчыне, дзе таксама існавала ўніяцкая парафія. Настаяцелем там быў а.Вацлаў Аношка.

***Вёскі ў сучасных Івацэвіцкім і Зэльвенскім раёнах. У міжваенны час там існавалі ўніяцкія парафіі.

# Джаз для аматараў Шапэна

**У Музычным тэатры адбыўся джазавы канцэрт вакалісткі Лоры Шафран і трыё Анджэя Ягадзіньскага. Канцэрт ладзіўся ў межах міжнароднай музычнай акцыі часопісу *"Jazz Forum"* і Польскіх інстытутаў у Менску, Маскве і Санкт-Пецярбургу.**



Анджэй Ягадзіньскі

Напачатку трыё Ягадзіньскага грала Шапэна. Анджэй Ягадзіньскі — вядомы ў Польшчы шапэніст. Ён працаваў у сымфанічным аркестры Польскага радыё, з найлепшымі джаз-гуртамі аб'езьдзіў паўсьвету. У 1993-м ён заснаваў свой уласны гурт — *Andrzej Jagodziński trio*.

Гурту Ягадзіньскага ўдалося захаваць распазнавальнасьць шапэнаўскіх мэлёдыяў і адначасова расквеціць іх усімі фарбамі сучаснага джазу. Захаваўся нават своеасаблівы стыль музычнага мысьленьня, уласьцівы Шапэну. Гэта й ня дзіва, бо менавіта Шапэн быў праўдзівым вынаходнікам джазавага сьвінгу.

Праўда, у сольных эпізодах, дзе шапэнаўская музыка гучала амаль у натуральным выглядзе, Ягадзіньскаму не ставала прафэсійнага піянізму. Гэта было асабліва выяўна для тых, хто знаёмы з фартэпіянным майстэрствам польскага джазавага піяніста Кшыштафа Хердзіна, дэбютны альбом якога таксама называўся *"Chopin"*. Увогуле, Шапэна выконваюць многія польскія джазмэны. Дастаткова ўзгадаць кружэлку "Ўражаньні з Шапэна" піяніста Лешэка Можджэра (1999), а таксама кружэлку з аранжаваньнямі шапэнаўскіх твораў для клярнэта і струннага аркестру, выдадзеную Кшыштафам Хердзіным і Збышкам Намыслоўскім у 1999 г., калі адзначаліся 150-я ўгодкі з дня сьмерці Шапэна.

Кружэлку "Толькі Шапэн" выдала ў 1999-м і сьпявачка Лора Шафран, якая выступала 26 чэрвеня разам з трыё Ягадзіньскага. Яна папросту сьпявае цэлыя п'есы зь немудрагелістым паэтычным тэкстам з пачатку да канца. Выконвала яна свае старыя гіты — *"Lonesome Dancer"* ("Самотны танцор") і *"You've Changed"* ("Ты зьмяніўся"). Як на мой погляд, гэта было аж занадта традыцыйна, а публіцы спадабалася.

Увогуле, сустрэчы з польскім джазам паступова робяцца ў нас звыклымі. Прыгадваецца верасьнёўскі канцэрт саксафаніста Зьбігнева Намыслоўскага зь ягоным квартэтам. Канцэрт адбываўся таксама ў памяшканьні Музычнага тэатру, разам з кірмашом джазавых часопісаў, плякатаў і кампакт-дыскаў.



Лора Шафран

Квартэт Намыслоўскага грае толькі творы самога Намыслоўскага — унікальны канглямэрат джазу, фальклёру, польскай клясыкі, папулярнай эстрады, рок-музыкі ды іншых плыняў, якія часам не падаюцца дакладнаму акрэсьленьню. Аднак ягоная гра — у адрозьненьне ад ігры Ягадзіньскага — крыху расчаравала. На працягу ўсяго вечара Намыслоўскі граў бездакорна — але ня болей за тое. Больш мяне ўразіла тады майстэрства пэркусіста Гжэгажа Гжыба. Час ад часу я адчувала сапраўдную прыкрасьць ад таго, што ўсталяваная ў залі




сыстэма відэапраекцыі не дазваляла ўбачыць ягоную "кухню" — г.зн., спосаб здабыцьця адмысловых, цалкам незвычайных гукаў і рытмаў. Але найболей спадабаліся тыя абэркі, куявякі, мазуркі, у якіх лунаў шапэнаўскі дух.

Можна шчыра пашкадаваць, што сустрэча сёньняшняга беларуса зь легендамі польскага джазу адбылася так позна.

Бо для пакаленьня нашых бацькоў польскі джаз быў такім сама глытком свабоды, як польскае тэлебачаньне ў Берасьці і Горадні, як часопіс *"Przekrój"* ці дэманстрацыі польскіх модаў. Нешматлікія менскія фаны (з тых, хто дэманстрацыйна шпацыраваў па праспэкце з газэтаю "Жэньмінь Жыбао" ў руках) паважна паўтаралі імёны смычкоўцаў Міхала Ўрбаняка і Зьбігнева Сэйфэрта, трубача Томаша Станькі, сьпявачкі Ўршулі Дудзяк... Гэта было задоўга да джазавых перадачаў "Голасу Амэрыкі" з камэнтарамі Ўіліса Кановэра.

А ў жніўні 1956 г. палякі зладзілі ў Сопаце Першы фэстываль джазавай музыкі, у часе якога адбыўся й першы ў нашае частцы Эўропы "новаарлеанскі паход". Па вуліцах курортнага гораду маршыраваў стыхійны маляўнічы натоўп джазавых фанаў біў у барабаны, трубіў у трубы, выгукваў лёзунгі на "імпэрыялістычнай" мове. У гэтым натоўпе быў і 18-гадовы Марэк Карэвіч, і 16-гадовы Зьбігнеў Намыслоўскі...

Менавіта гэтак усё і пачыналася. Цяпер мы бачым плён шматгадовага натуральнага разьвіцьця джазавай культуры ў суседняе Польшчы. Самабытнасьць. Польскасьць. Цікавыя сынтэзы жанраў.

Шкада, што ў параўнаньні з польскай нашая джазавая культура разьвіваецца неяк запаволена. Пад націскам папсы і псэўдафальклёру людзі страцілі традыцыю музыкаваньня і сьпяваньня.

У дзень леташняга канцэрту — 9 верасьня — Збышку Намыслоўскаму споўніўся 61 год. З гэтае нагоды дырэктар Польскага інстытуту сп.Цэзары Карпіньскі папрасіў публіку засьпяваць традыцыйную віншавальную песьню *"Sto lat"*, якую пяюць і ў беларускіх вёсках. Ладная частка слухачоў адгукнулася на прапанову даволі своеасабліва, засьпяваўшы па-ангельску *"Happy Birthday to You!"*. Астатнія ня ведалі ані словаў, ані музыкі. Крыху пазьней на просьбу Намыслоўскага нашая джазавая публіка спрабавала адбіваць далонямі пяцідольнік — найпрасьцейшы рытм, які мусіць быць у крыві беларусаў, бо прысутнічае ў старых беларускіх песьнях. Публікі хапіла тактаў на дзесяць — пры тым, што ў залі сядзела нямала прафэсійных джазмэнаў.

Якая публіка — такія і артысты.

Хоць людзі маштабу Намыслоўскага, Ягадзіньскага, Хердзіна вучыліся калісьці і ў Беларускай кансэрваторыі. Яшчэ перад вайною Масей Вайнберг і Эды Тырманд гралі джаз у жывым этэры Беларускага радыё. Яны ўдвох сядалі за раяль, перад імі ставілі вялізны гадзіньнік (перадача доўжылася дакладна 10 хвілінаў), дамаўляліся наконт танальнасьці і пачыналі граць. Пасьля вайны джаз ужо быў нікому непатрэбны. Вайнберг зьехаў у Маскву і напісаў там 20 сымфоніяў, "залаты фонд" савецкай музыкі. Тырманд зрабілася кампазытаркай сьціплейшага кшталту: пісала рамансы.

Шмат пазьней быў джазавы фартэпіянны дуэт Ігара Паліводы і Васіля Раінчыка. Потым — дуэт Аркадзя Гурава і Якуба Ягудзіна. Абодва дуэты ахвотна гралі клясычную музыку ў джазавых апрацоўках.

Кансэрваторскія "акадэмісты" заўзята спрачаліся: ці можна гэткім чынам "нявечыць" клясыку? І прыходзілі да непазьбежнае высновы: "Нельга ні ў якім разе!"

Потым Гураў — адораны кампазытар і знаўца літвацкага фальклёру — зьехаў у Ізраіль. Ягудзін — таксама таленавіты кампазытар і цудоўны піяніст — памёр у веку 28 гадоў. Гэтыя людзі напэўна здолелі б ажыцьцявіць сынтэз клясыкі, джазу і фальку на беларускай глебе — такі, зь якім мы пазнаёміліся на канцэртах палякаў.

**Юлія Андрэева**

Разваги

# Сьпеўная эвалюцыя

## *Да пытаньня пра гімн Беларусі*

Мікола Раманоўскі

У найноўшай гісторыі беларускага гімну самае цікавае — тое, што, у адрозьненьне ад яго, сьцяг і герб ніякіх сумненьняў не выклікалі.

Я думаю, гэтая сытуацыя ўзыходзіць да другое паловы 80-х, калі пайшлі мітынгі і падобнае. Ад самага пачатку ў атрыбутыку гэтага новага беларускага руху ўвайшла "Пагоня". Балазе яна была ўсім знаёмая з Багдановічавага верша. Быў час, калі значкі і плякацікі з "Пагоняй" вывозілі зь Вільні, дзе яны ўжо рабіліся, а ў Менску яшчэ не. Практычна ў той жа час — ад пачатку мітынгаў — зьявіўся і бел-чырвона-белы сьцяг; забаўна, што я да таго часу, даўно ведаючы пра "Пагоню", не падазраваў пра існаваньне бел-чырвона-белага сьцягу. Вось жа, з 1987 г. ("Дзяды" — першы несанкцыянаваны мітынг перад помнікам Купалу, дзе Анатоль Сыс чытаў доўгі сьпіс рэпрэсаваных дзеячаў) увесь адраджэнскі рух ішоў *толькі* пад бел-чырвона-белым сьцягам і *толькі* пад "Пагоняй". Таму ў 1991 г. яны выглядалі натуральнай і адзінай альтэрнатывай савецкай сымболіцы.

Інакш было з гімнам. У мяне складаецца ўражаньне, што тагачасныя адраджэнцы проста ня ведалі некаторых песень — і вывучвалі іх далёка не адразу. На самым пачатку песьняй, якую сьпявалі стоячы, была "Пагоня" на словы Багдановіча, а на матыў "Марсэльезы". Пра тое, што ў яе ёсьць арыгінальная мэлёдыя — і саму гэтую мэлёдыю — уведалі праз колькі гадоў. Пацешна было чытаць у газэце *"Имя"* (ужо ў другой палове 90-х!), што нейкая дэманстрацыя рушыла да Пішчалаўскага замку, пеючы "Марсэльезу" — ясна, што "Пагоню" на той матыў. (Аналягічная гісторыя была зь песьняй на словы Н.Арсеньневай "У гушчарах": сьпявалі і перадрукоўвалі тэкст з 3 слупкоў; потым адкрылі яшчэ адзін — "І мы верым: яна разгарыцца"; а казалі, што ёсьць яшчэ 2, але я іх так і не пабачыў.)

Вось жа, сьпявалі "Пагоню".

Паколькі мітынгі былі фронтаўскія, там гучала "Фронт! Фронт! Фронт!" Сокалава-Воюша.

Устаноўчы зьезд БНФ у Вільні адкрыўся сьпяваньнем "Не загаснуць зоркі ў небе" (словы Янкі Купалы, у нашаніўскую пару прапаноўвалася як гімн, але без наступстваў); са сцэны сьпявала "Дзяньніца", але публіка амаль не падпявала.

Першы зьезд беларусаў сьвету скончыўся сьпяваньнем "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" — з дынамікаў; здаецца, з усяго партэру адзіны, хто раскрываў рот, быў Пазьняк. Астатнія слухалі моўчкі.

Дзіўна, што апазыцыйныя мітынгі неяк неўпрыкмет перасталі быць сьпеўнымі. Цяпер нават усім вядомую "Пагоню" не пяюць, ня кажучы пра што іншае. Толькі пад канец мітынгу могуць ладзіцца канцэрты, хто хоча — слухае. Чаму так — ня ведаю. Здавалася б, што лепш за супольны сьпеў можа зьяднаць тысячы людзей — а ў тых, хто пазірае збоку, абудзіць сымпатыю і жаданьне далучыцца? Тэхнічна ня так і складана і дорага надрукаваць колькі тысяч аркушыкаў з тэкстамі; налепкі ж, пэўна, шматкроць даражэйшыя... Такая практыка, кажуць, была ў Прыбалтыцы падчас "сьпеўнае рэвалюцыі". Усяляк гэта весялей, чым змрочнае скандаваньне "Луку на муку".

Дык вось, пакуль будучы гімн не запяюць тысячы — ён гімнам ня стане. Альбо яго зацьвердзяць ад балды.

Далей зводка таго, што прапаноўвалася і функцыянавала ў якасьці гімну. Пазначаны аўтары словаў.

"А хто там ідзе?" (Янка Купала). Гэта гімнам назваў Горкі. Не магу з ходу назваць ніводнага выпадку, калі б гэта сьпявалася як гімн. Здаецца, калі такое і было, то найпазьней у першай чвэрці стагодзьдзя.

"Не загаснуць зоркі ў небе" (Купала). Вельмі прыгожая песьня, прапаноўвалася ўжо нашаніўскімі дзеячамі.

"Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (М.Краўцоў). Афіцыйны гімн БНР. Гучаў у Заходняй Беларусі. Сьпяваецца і дагэтуль у такой якасьці (як гімн беларускае дзяржаўнасьці) на эміграцыі.

"Адвеку мы спалі" (аўтар дакладна невядомы). Фактычны гімн вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі пад Польшчаю, быў вядомы і ў БССР. Сьпяваўся масава.

"Магутны Божа" (Н.Арсеньнева). Рэлігійны гімн. Менавіта рэлігійны, а не дзяржаўны. На эміграцыі гучыць пры рэлігійных урачыстасьцях. Прымальны для любой монатэістычнай канфэсіі, таму мае экумэнічны характар. Быў рэкамэндаваны камісіяй Вярхоўнага Савету 12 скліканьня ў апошні момант перад сканчэньнем паўнамоцтваў таго ВС. Гэта выглядала актам адчаю — ня бачачы ўжо сродкаў да змаганьня на гэтым сьвеце, дэпутаты быццам узмаліліся: "Зрабі свабоднай...".

"Мы, беларусы, з братняю Русьсю" (М.Клімковіч). Дзяржаўны гімн БССР, выбраны праз конкурс, у якім удзельнічалі найбуйнейшыя паэты — Куляшоў, Танк... Але якраз Клімковіч зь першага ж радка ўзяў патрэбны начальству тон: "з братняю Русьсю". Цікава было б падняць матэрыялы таго конкурсу.

"Пагоня" (М.Багдановіч). Гучала ў якасьці гімну дэ-факта на мітынгах 80-х — пачатку 90-х гг.

У сьпіс ня ўключаны: палянэз Агінскага — бо гэта музыка, а словаў на яго толькі лянівы не пісаў (і яшчэ таму, што гімну не пасуе разьвітвацца з Радзімай); маразматычная спроба "Нашага Слова" напісаць гімн талакою; ня менш маразматычныя варыянты, якія дасылаліся ў камісію Вярхоўнага Савету.

Рана ці позна з гімнам давядзецца вызначыцца. Спрэчкі вакол магчымых варыянтаў — гэта фактычна спрэчкі пра густы. Тым часам крытэрый адбору — вельмі просты. *Сымболіка мусіць быць традыцыйнаю.* Незалежнасьць у 1991 г. абвешчана не ўпершыню. З усіх названых песьняў у якасьці *дзяржаўнага* гімну (а ня толькі мітынговага сьпеву) у XX ст. рэальна функцыянавалі дзьве: "Мы, беларусы" і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Пра непрымальнасьць "Мы, беларусы" гаворана-перагаворана. "Мы выйдзем..." — гімн першай незалежнай беларускай дзяржавы (хоць і нетрывалай). Ці ўзыходзіць сучасная і будучая беларуская дзяржаўнасьць да БНР? Калі так — рашэньне адназначнае.

Хацеў бы падкрэсьліць: прапануецца не варыянт, а крытэрый (традыцыйнасьць), паводле якога і робіцца выбар. Які крытэрый можа яго пераважыць — ня ведаю. Любыя іншыя, як паказалі дыскусіі 90-х, тонуць у бясплённых спрэчках пра густы. Альбо пра тое, як усім спадабацца, што ўжо цалкам беспрадметна.

# Мусю француз, ці не зьясі гарбуз?

Працяг са старонкі 8.

**“Наша Бяроза чужых і генэралаў тапіць можа”.** Галоўная трагедыя францускага паходу 1812 г. адбылася 14–16 (26–28) лістапада на пераправе цераз раку Бяроза (сучасная Бярэзіна)[1]. Маршал Удзіно ашукаў расейскіх генэралаў, будуючы фальшывую пераправу ў Барысаве. Тым часам на поўдзень ад места, каля вёскі Студзёнкі, пад наглядам Напалеона будуюцца два масты. Працаваць французы мусілі ў сьцюдзёнай вадзе, шмат іх загінула. Сьвет іх патапіўся ў часе пераправы, багата хворых і параненых заблукала ў лесе й назаўсёды засталося на берагах Бярозы. Яшчэ ўвесну 1813 г. на барысаўскай плошчы стаяла мноства францускіх гарматаў, фурманак. З-пад сьнегу бачныя былі ківэры, кірасы, хатылі, зброя, трупы жаўнераў. Некалькі тысячаў французаў пахавалі ў вялізных ямах на ўскраіне Студзёнкі. Большасьць францускае маёмасьці трапіла ў рукі тамтэйшай шляхты[2]. Усё таньнейшае пахапалі сяляне. Да пачатку XX ст. у навакольных вёсках этнографы бачылі францускія шалі, ручныя млыны, кавамолкі, ружжы. Падчас расчысткі Бярозы ў 1813, 1855, 1910 гадах знайшлі шмат францускіх рэчаў. Усё гэта спарадзіла легенды аб францускіх скарбах, якія схавала рака.

**“От адзін стаў Напальён, хоць прывёў да нас мільён”.** Прыказка адлюстроўвае жудасныя страты францускага войска ў паходзе на Расейскую імпэрыю. Па падліках дасьледчыкаў, з 420 тысячаў жаўнераў, якія перайшлі Нёман 12 (24) чэрвеня 1812 г., у сьнежні цераз прускую мяжу вярталіся толькі каля 30 тысячаў чалавек.

**“Мусю француз, ці не зьясі гарбуз?”** Жартоўны калямбур. Як тлумачыў у канцы XIX ст. беларускі этнограф Яўген Ляцкі, ”жарт быў распаўсюджаны ў некаторых паветах Менскай губэрні як кпіна з нашчадкаў французаў, што аселі на беларускіх землях у пачатку XIX ст.” Адам Кіркор сьведчыў, што багата жаўнераў Напалеона пазаставаліся ў беларускіх вёсках і панскіх фальварках. Хтосьці стаўся настаўнікам, гувэрнэрам. Некаторыя зрабілі кар’еру й атрымалі ад расейскага ўраду высокія пасады, узнагароды, шляхецтва.

**“Каб цябе пранцы цалавалі!”, “Каб цябе пранцы зьелі!”[3]** Пашыраны народный праклён. “Пранцамі” беларусы скарочана называлі французаў і, адначасова, “пранцы” – народная назва сыфілісу (syphilis, lues), вядомага ў Эўропе з XVI ст. як “француская хвароба”. На думку простага люду, менавіта французы занесьлі яе ў Беларусь у 1812 г. Паводле ўспамінаў старой сялянкі, занатаваных у 1870 г., “...сямейка схавалася ад пранцаў у лесе, ...братава жонка з-за немаўляці засталася на вёсцы з пранцузамі. Рыхтавала ім ежу, даіла каровы. Але пасьля адыходу пранцузаў уся зрабілася ў ранах і брат ад яе набраўся. Кажуць, што ўся вёска набралася нейкай хваробы ад тых пранцузаў”.

**“І ў Парыжу з аўсу ня зробяць рыжу (рысу)”.** Узьнікненьне гэтай прыказкі зьвязанае з Усясьветнай выставай 1889 г. у Парыжы (раней прыказка не фіксуецца). Весткі аб дзівосах Парыскае выставы, аб найвялікшай у сьвеце Эйфэлевай вежы й іншых цудах даходзілі да Беларусі. Але скептычны сялянскі практычны розум па-свойму інтэрпрэтаваў францускія падзеі.

[1] Расейскія й беларускія дасьледчыкі вайны 1812 г. па аналёгіі з “Барадзіно” перарабілі народный гідронім “Бяроза” на “Беразіно”.

[2] Напрыклад, барысаўскі шляхціц пан Корсак зрабіў у сваім маёнтку “францускі музэй”.

[3] Гэты варыянт атрыманы ад доктара філялягічных навук Міколы Нікалаева, які чуў гэтую прыказку ў дзяцінстве на Наваградчыне.

**Сьпіс выкарыстаных крыніцаў прыказак:**

Васильев В. Белорусские пословицы. // Маяк. Санкт-Петербург, 1844. Т.15; 1845. Т.22–23.

Czaczot J. Piosenki wieśniacze znad Niemna i Dźwiny... Wilno, 1846. S.106–117.

Ельчанинов Н. О значении пословиц и поговорок и о Бельском местном наречии.// Смоленские губернские ведомости. 1864. №28. С.113–115.

Сборник белорусских пословиц, составленный И.И.Носовичем. Санкт-Петербург, 1874.

Романов Е.Р. Белорусский сборник. Т.1. В.1–2. Песни, пословицы, загадки. Киев, 1885.

Этнографический сборник, составил В.Н.Добровольский. // Записки ИРГО. Отдел этнографии. Ч.3. Т.23. В.2. Пословицы. Санкт-Петербург, 1894.

Ляцкий Е.А. Материалы для изучения творчества и быта белорусов. Ч.1. Пословицы, поговорки, загадки. Москва, 1898.

Рукапісны збор прыказак А.К.Сержпутоўскага (1909 год). // Касько У. Сьвятло далёкае зоркі. Менск, 1997. С.270–296.

Federowski M. Lud białoruski na Rusi Litewskiej. T.4. Warszawa, 1935.

Oskar Kolberg. Dzieła wszystkie. T.52. Białoruś-Polesie, Wrocław-Poznań, 1968.

Прыказкі і прымаўкі ў дзьвюх кнігах. // Пад рэд. А.Фядосіка і М.Грынблата. Кн.1. Менск, 1976.

Беларускі фальклёр. Хрэстаматыя. Менск, 1996.






## Прыватныя абвесткі

### альбом Сіна

**18 ліпеня ў клюбе “Тунэль”** адбудзецца прэзэнтацыя альбому Ільлі Сіна “Кароткія інструкцыі па транспартаваньні цельцаў палых ластавак на тэрыторыю Івацэвіцкага раёну”

### аўтамат нямецкай вытворчасьці

**Прадаю** пральную машыну-аўтамат нямецкай вытворчасьці. Б/у, у добрым стане, нядорага. Т.: 221-14-86

### віта́ньні

**Кастуся Каліноўскага** віншуюць з Днём народзінаў нацыяналісты з 121-й школы. Дзяніс Цыўля і сябры

**Віншую Кастуся Каліноўскага** з Днём народзінаў! Наперад! Мы пераможам! Барыс з МФ

**Віншую Ўсевалада зь Вялейкі** з Днём нараджэньня. Сто лят нех жые Вам. Сябра з-пад Маладэчна

**Віншую Лысага Сяргея Вацлававіча** з заканчэньнем базавай школы. Мікіта

**Адэлька!** Усе мае думкі толькі пра Цябе. А за вакном ці то вясна, ці то зіма. Сонца

**Nadziejcy-Kumie ŭžo 17!** Nadziejka, zyčym tabie... KACHAŃNIA! (Tolki “ne ŭlublajsia ŭ vajennych rabiat”!) My

**Віншуем Надзейку-Чарадзейку** (ужо студэнтку) з Днём народзінаў. Зычым добрага адлачынку перад “ягой”. Сябры-жывёлінкі

**Прывітаньне Мары лунінецкай** ад ліцэістаў менскіх! Як посьпехі? Ці ўсе іспыты здадзеныя? Мы нарадзіліся тут!!!

**Віншуем** Андруся Сяркова з Днём народзінаў. Зычым посьпехаў па жыцьці. Сябры

**Менскі МФ** віншуе Андруся Сяркова з Днём народзінаў!

**Шчырая падзяка** спадару, які першым павіншаваў мяне празь любімую газэту. Бася Стасава

### вокны, дзьверы

**Філёнчатыя дзьверы**, драўляныя вокны са шклапакетам. Вырабляем, ставім, гарантуем якасьць. Т.: 247-98-31

### здымем кватэру

**Здымем аднапакаёўку ў Менску** для маладой сям'і. Магчымая перадаплата, парадак гарантуецца. 262-07-70

### ідэі, кантакты

**Задуральніку галоваў!** Ня варта выбачацца. Усё файна. Прынамсі, да 1 верасьня:-)

**МаШэр!** Тэлефануй, паздымаемся! ;) Твой фотапартрэтыст

**Алёна! Настасься!** Усё будзе добра, дзень прыйдзе новы... Нам абавязкова пашанцуе! Стаська

**121-ая школа,** МФ цябе не забыў! Восеньню зьменім уладу і настаўнікаў! Пімен Каляда

**Змагайся за волю** Бацькаўшчыны! Арганізацыя “Край”. Пэйджэр: (8-017) 249-00-00, аб. 7315. E-mail: spa_kraj@hotmail.com Паштовы адрас: 220037, Менск, а/с 49

**Беларусь – у NATO!** Дапаможам Захаду ў іх змаганьні супраць расейшчыны. BPS. Пэйдж.: 289-12-12 аб.4430. bps@tut.by

**Беларуская Партыя Свабоды ў Магілёве!** Збор штоаўторак насупраць кінатэатру "Радзіма" а 18-й

**Задураныя галовы** — гэта яшчэ ня самае страшнае. Галоўнае, каб сэрцы былі на месцы. Задураныя галовы

### кнігі, музыка

**Дзе набыць кнігу** Вітаўта Клінка "Тайнае і яўнае Саюзу двух (сакрэты інтэграцыі)"? saroka@rambler.ru

**Аматары беларускай музыкі ў Берасьці,** зьвяртайцеся па касэты і кампакт-дыскі. Шырокі выбар. Сяржук. Т.: 24-54-56

**Замаўляйце і чытайце** "Голас Краю" — газэту беларускіх нацыяналістаў. Адрас рэдакцыі: 220037, Менск, а/с 49

### крамяні

Крамяні для прыгатаваньня АКВ. Эфэктыўна пры шмат якіх хваробах. Падрабязьней у лісьце. Ад Вас — капэрта са зв/а+купон б/а. 246008 Гомель-8, а/с 9

### net

**“Сьвятая Дуброва – Крыўскі Пяроспар”** — культавая старонка беларускага сеціва, прысьвечаная актуальным пытаньням паганскага адраджэньня. http:/www.dubrova.cjb.net

**www.nrg3.narod.ru** – новыя песьні пра галоўнае

**Запрашаем наведаць** сайт беларускіх нацыяналістаў: www.spa-kraj.org

### праца

**Дапамагу распачаць працу** ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са зв/а+купон б/а: 220089 Менск, а/с 122

НАША НІВА — **КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________

______________________

Імя і прозьвішча ______________________

Адрас, тэлефон ______________________

**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| вярстальніца | Заміра Болцікава |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| адказны сакратар | Андрэй Кузьнечык |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| заснавальнік і выдавец | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://niva.s5.com**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Наклад 5125.
Нумар падпісаны ў друк 15.07.2001.
Замова № 3942.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а